05/735

1911и-1
2590 бел

# РОДНАЯ МОВА

МЕСЯЧНІК ПАСЬВЯЧОНЫ ПЫТАНЬНЕМ
БЕЛАРУСКАЕ (КРЫВІЦКАЕ) МОВЫ.

Падпіска на год — 6 зал., ½ г.— 3 зал., ¼ г. — 1.50 зал.

Адрэс Рэдакцыјі ј Адміністрацыјі: Вільня, Квашэльная 23, 1.

№ 1—2. Студзень—Люты 1930. Год I.

1964 г.

## Ад Рэдакцыјі.

Патрэба адумысловага часапісу, пасьвячонага пытаньнем беларускае літаратурнае мовы, надзвычајна адчуваецца. Калі јіншыя, шчасьліўшыя за нас народы, маюць навуковыя часапісы з практычнај мэтај —развою свае літаратурнае мовы, дык што-ж казаць аб нас, што мусім як мага бараніць сваю мову ад чужых уплываў на яе. Ё мноства пытаньнеў правапіснага, граматычнага ј слоўнікавага характару, дагэтуль неразгледжаных або не разьвязаных; усе яны знајдуць месца ў нашым часапісе. Беларускую мову літаратурную ўтварыла ды твора ј разьвівае далеј уся беларуская інтэлігенцыя, асабліва інтэлігенцыя, пішучая пабеларуску, на чале зь пісьменьнікамі ј поэтамі. Вось-жа памагчы гэтај інтэлігенцыјі разабрацца ў тым, што сваё а што чужое, што балеј а што менеј адпаведнае, будзе нашај простај павіннасьцяј.

Дзяржаўная бібліятэка БССР У. І. Леніна

Разглядаючы ўсі пытаньні чыста навукова, мы адначасна будзем выясьняць јіх популярна, каб „Родная Мова“ была прыступној усеј беларускај інтэлігенцыјі. Мы пэўныя, што на балонках „Роднае Мовы“ знајдзе месца ня толькі праца адумыслоўцаў—беларускіх філёлёгаў, але ј беларускае інтэлігэнцы наагул, каторая ў сваеј працы адчувае патрэбы або нястачы ў роднај мове ці стыкаецца зь яе асаблівасьцьмі.

---

## Язык і языкаведа.

У кожнага культурнага народу зь языка, мовы народнае або—тачнеј—з розных нарэччаў мовы народнае творыцца мова літаратурная. І ў Беларусаў утварылася літаратурная мова. Маем старую беларускую мову літаратурную, што была ўрадоваj у беларускім гаспадарстве, званым Вялікім Княствам Літоўскім. І цяпер маем новую беларускую мову літаратурную, створаную за час Беларускага Адраджэньня.

Разгледзім, ці літаратурныя мовы ў сваjім развою патрабуюць помачы навукі аб мове, г. зн. лінгвістыкі або языкаведы. Мы ведаем, што навет літаратурныя мовы, каторыя ўтварыліся j разьвіваюцца ў наjспагаднеjшых варунках, як прыкладам мова нямецкая, польская, маскоўская, і тыя карыстаюцца помачаj языкаведы. У жыцьцю зьяўляецца шмат новых рэчаў, зьяўляюцца новыя пojмы, назовы для каторых далёка не заўсёды карысна браці з моваў, дзе гэныя пojмы ўзьніклі. Але напару j рэч узьнікпая ў сваjім народзе ня мае адразу сабе назову; бывае гэта пры розных вынаходах. Трэба назовы новых пojмаў утварыць, прытарнаваўшы дзеля гэтага існуючыя назовы jіншых пojмаў або j зусім зрабіўшы новае слова, паводле законаў свае мовы. А гэтыя законы падае нам языкаведа (лінгвістыка), званая часта філёлёгіяj у шыршым значэньню.

Але ня толькі пры тварэньню назоваў новых пojмаў памагае нам языкаведа. Патрэбна яна такжа наагул пры тварэньню або дасканальненьню літаратурнае мовы. Тут можна сустрэцца із закідам, што мову літаратурную твораць пісьменьнікі, а не навука. У ладнаj меры гэта праўда. У народаў, каторых мова не падпала пад уплыў чужы, пісьменьнікі запраўды могуць стварыць літаратурную мову і языкаведа прыjдзе з помачаj тады, калі трэ' будзе даваць назовы новым пojмам. Гэтым, так сказаць шчасьлівым мовам, трэба языкаведа яшчэ на тое, каб устанавіць законы дадзенае мовы, ды паводле знojдзеных законаў апрацаваць граматыку j правапіс, патрэбныя чужнікам дзеля навучэньня гэтае мовы і дзеля сьвядомых адносінаў да яе сваjіх.

Шмат патрабнејшая помач языкаведы літаратурным мовам народаў, каторых мова падпала пад чужы ўплыў. Да гэткіх моваў належа цяперака ј мова нашая. Ня толькі з прычынаў дыялектолёгічных, але ј з прычыны чужых уплываў нашая мова не на ўсім свајім прасторы аднолькавая. Вялізарная большасьць нашае мовы асталася наагул добрај, чыстај беларускај моваю, але ё частка ј ладне папсаванае, ё ј вельмі папсаваная, ё, напасьледак, такія мясцовасьці, дзе асталіся адно сьляды, паказуючыя, што тамака ўперад была беларуская мова; гэткія сьляды сьведчаць, што тамака жывуць Беларусы, каторыя сваю мову ўтрацілі. Калі-б мы далі поўную волю пісьменьнікам пісаць так, як дзе гамоняць, дык стварылася-б гэтулькі літаратурных моваў, ці, праўдзівеј, гэтулькі літаратурных дыялектаў беларускае мовы, колькі ё розных зь языковага гледзішча мясцовасьцеў. Можна на гэта адказаць, што трэба на аснову беларускае літаратурнае мовы ўзяць тыя яе мясцовасьці, дзе яна захавалася најчыстшај. Добра, але хто-ж з пэўнасьцяј давядзе, дзе најчыстшая, калі не языкаведа. Справа заблытуецца яшчэ тым, што чыстая мова захавалася не на адным вялікім суцэльным прасторы, але асобнымі часьцьмі: далеј ад мястоў—чыстшая, бліжэј да јіх—папсаваная. Апрача таго, навет у мясцох із харошај, чыстај моваю беларускај частка Беларусаў—звычајна мужчыны—побач із роднај моваю крышку ўмеюць мову маскоўскую або польскую і пры нашај неахајнасьці ў мове нярэдка без патрэбы чужыя словы ўжываюць.

Трэба, праўда, адцеміць, што беларуская мова літаратурная ўзьнікла ў мясцовасьці з прыраўнальна добраю моваю народнаю, што пісьменьнікі зь мясцовасьцеў з моваю прыпсаванаю вучацца зь літаратуры ўжо створанае; гэта аднак толькі зьмяншае небясьпечнасьць, але не пярэчыць патрэбе беларускае языкаведы дзеля дасканальненьня беларускае літаратурнае мовы.

---

Закон *матэматычны* заўсёды ё консэквэнтны. Закону *лінгвістычнаму* адпавядаюць зьявы ў дадзенај мове, але не заўсёды, дзе паводле языковага закону спадзяемся адпаведнае зьявы, яе знаходзім, яна *можа* быць, але *ня мусіць*. Расьцяг языковага закону будзе заўсёды залежыць ад колькасьці фактаў у дадзенај мове, адпавядаючых гэнаму закону. Гэтак прыкладам *l (ль)* у беларускај мове перад *c* (ц) перајшло ў *l* у такіх словах, як—салца, колца, шылца, стралцы, але перад такім-жа с (ц) у словах—Юльцы, матульцы, Ганульцы *l* (ль) не ацьвярдзела. Сугукі перад пярэдне-паднябеннымі самагукамі (е, *i*, ь, ѣ, *'a* з прас. *ę*) мяккія, але маем *p* толькі цьвярдое. За

прасл.—ог,—ег—із складовым г у беларускај мове ёсьць— —ого - ,—еге—, але маем *верабеј* замест спадзяванага *варабеј* з *воробеј*; побач із словам *дзерава* ёсьць *дзерва* ў јіншым значэньню (*застраміць у палец дзерва*). Гэта ня знашыць, што тут маем водхіны ад языковых законаў або т. зв. выняткі, бо ў языковых законах выняткаў нямашака; толькі адныя зьявы маем паводле аднаго языковага закону, а другія паводле јіншага. Языковыя асаблівасьці, як жывыя зьявы ў мове, адначасна пашыраюцца ў розных кірунках і адныя захапляюць адну групу гукаў або словаў, а другія могуць захапіць јіншую падобную групу. Значыцца языковы закон выводзіцца зь ведамых фактаў і расьцяг ягоны агранічуецца тымі-ж фактамі.

Скуль браць языковы матар'ял дзеля ўстанаўленьня або праверкі языковага правіла? Можна браці із свае собскае індывідуальнае мовы, але гэткае назіраньне можа быць суб'ектыўным. Можна рабіць назіраньне над мовою нашых знаёмых, але трэба ведаць, што мова нашае інтэлігенцы часта бывае запсаваная. Најляпеј назіраць мову простага народу, асабліва жанок, тых мясцовасьцеў, дзе беларуская мова харошая, чыстая. Вельмі добра такжа выбіраць языковыя асаблівасьці зь лінгвістычных або этнографічных зборнікаў—запісаў казкаў, песьняў і пад. Надзвычајна дарагім матар'ялам ё старыя памяткі беларускае мовы (рукапісныя ј друкаваныя кніжкі, граматы і јіншыя), але дзеля карыстаньня јімі патрэбная большая языкаведная прыгатова.

Ня ўсё, ведама, знајдзенае ў беларускіх зборніках этнографічных будзе чыста беларускім. Можа сам апавядальнік ужываць заўсёды якія барбарызмы, мог јіх ён ужыць, каб падабацца гамонячаму чужој моваj запісавальніку, мог, напасьледак, запісавальнік добра не пачуць, асабліва, калі ён ня ўмее добра беларускае мовы. Аб гэтым (апошнім) шчыра прызнаецца Раманаў.

Калі мы сустракаем асаблівасьць, што не магла зьявіцца з прычыны чужых уплываў на нашую мову, дык можам яе сьмела занесьці ў лік асаблівасьцеў нашае мовы, у праціўным прыпадку трэба адносіцца да яе асьцярожна, бо можа быць чужою. Зь дзьвюх асаблівасьцеў, з каторых адна свая, а другая чужая, выбіраем, ведама, сваю. Але як зрабіць, калі ў тых-жа прыпадках ё дзьве розныя асаблівасьці ў гуках, ці ў хвормах і абедзьве беларускія, значыцца, калі маем розьніцу ў дыялектах альбо ў гаворках альбо навет тыя самыя людзі адзін раз скажуць гэтак, а другі раз гэнак? Тады для літаратунае мовы трэба выбіраць тую асаблівасьць, што згаджаецца з агульным імк-

неньням мовы ў дадзеным прыпадку. Прыкладам: у вадным месцу ад авёс скажуць родны склон адзін. л. аўсу, а ў другім аўса; трэба ўжываць аўсу, бо імёны мускія матар'яльныя маюць у родным склоне адз. л. канчатак — *у*; гэты канчатак — *у* ў родным склоне здаўна пашыраецца, абыјмаючы ўсё большую ј большую колькасьць словаў.

*С. Я.*

---

# Беларускія плямёны і іхняе расьсяленьне.

Аб расьсяленьню беларускіх плямёнаў у сувязі з дыялектамі беларускага языка галоўна пісаў А. Шахматаў. Ё аб гэтым ягоныя дзьве працілежныя гіпотэзы. Першую гіпотэзу маем у вартыкуле „Къ вопросу объ образованіи русскихъ нарѣчій и русскихъ народностей“. Журналъ министерства просвѣщенія. Зборнік 322, месяц красавік.

У гэтым артыкуле А. Шахматаў дзеле прэдкаў Украінцаў, Беларусаў і Расејцаў на тры групы. Даводзячы, што была калісь у перадгістарычную пару „руская суцэльнасьць“ ды „праруская мова“, А. Шахматаў адносе паўстаньне апрычоных народнасьцеў—украінскае, беларускае ды расејскае — да пары гістарычнае, а дзеля тага гэным групам прадгістарычным умоўна дае назовы паўдзённа-рускае, сярэдня-рускае ды паўночна-рускае.

Нас цікаве „сярэдня-руская“ ці як-бы я назваў—група беларуская. Беларускія плямёны і іхняя мова паводле А. Шахматава дзяліліся на дзьве галіны: заходнюю, да каторае належылі Дрыгвічы, Радзімічы ј Вяцічы, ды ўсходнюю, каторую тварыла адно племя - Севяране. Радзімічы ј Вяцічы спачатку жылі на заходзе цяперашняе Беларусі, а потым перасяліліся на ўсход. Гэныя аселі на раццэ Сажы, прытоку Дняпра, гэтыя — на верхняј Аццэ, у цяперашняј Калускај губэрні. Гэтыя пераходы іхнія адбіліся ў кіеўскім летапісцу ў зацемцы аб іх ляскім паходжаньню. Шахматаў даводзе, што Разанскую зямлю занялі ня Вяцічы—а ўсходне-беларускае племя — Севяране. З часам Севяране — прэдкі цяперашніх Паўдзённа-расејцаў — утварылі разам із паўночна-рускімі плямёнамі расејскі народ.

Крывічоў залічае да паўночна-рускае ці, начај кажучы, расејскае групы. Крывічоў із першабытных сялібаў іхніх выціснулі беларускія плямёны—Дрыгвічы ј Радзімічы. Першыя занялі Полаччыну і дајшлі ажно да Пскова ўлучна, другія Смаленшчыну ажно да Цьвершчы-

ны. У Цьверскім княстве Крывічоў часткава выціснулі Радзімічы, але балej Вяцічы. Беларускую мову з распадобнюючым (дысыміляцыjным) тыпам аканьня (вымаўляньне—с ы х á, к ы с á, к ы з á ў побач з—с а х і, к а с ы, к а ж у і пад.) прызнае патомкам заходне-беларускае галіны, гэта значыцца мовы Дрыгвічоў, Радзімічаў і Вяцічаў, а каб выясьніці скуль узялося аканьне тыпу звычаjнага (недысыміляцыjнага, з вымаўляньням—с а х á, к а з á, н а г á, к а з á ў і пад.), дапушчае, што із заходу прыjшлі яшчэ якіясь няведамыя племёны беларускія з гэтым тыпам аканьня і занялі Гарадзеншчыну, Віленшчыну, Меншчыну і ладную частку Магілеўшчыны.

Як бачым, каб залічыць Крывічоў да расеjскага племені, А. Шахматаў мусіў дапусьціць прыход новых, няведамых гісторыjі беларускіх пляменаў. Гэта вельмі слабое месца ў гіпотэзе Шахматаваj. І гэтая слабіня, гэтае дапушчэньне няведамых пляменаў, гэты Х пастаўлены ў тэорыjі першым камянём: бяз гэтага Х ўся тэорыя сама сабою валіцца. Зацемлю яшчэ, што j дапушчэньне гэтае ня ўсё выясьняе, бо чым выясьніць, што тып аканьня патомкаў гэных дапушчаных няведамых пляменаў заходне-беларускіх аднолькавы з тыпам аканьня здавальных патомкаў даўнеjшага ўсходне-беларускага плямя Северан — быццам цяперашніх Паўдзённа-расеjцаў?

Здаецца, каб абыjсьціся бяз гэтага дапушчэньня няведамых пляменаў, а галоўна, каб не паставіць у небясьпечнасьць „прарускае суцэльнасьці", аб чым кажу ніжэj, мусіў А. Шахматаў кінуць гэтую сваю старую гіпотэзу і замяніць яе новаю, яшчэ менеj праўдападобнаю j фантастычнеjшаю.

Другая гіпотэза Шахматава не разьвіта гэтак падрабязна, як першая. Яе знаходзім у „Курсъ исторіи русскаго языка". Пецярбург, 1911 — 12; „Введеніе въ курсъ исторіи русскаго языка". Пецярбург, 1916. і інш. Гэтта А. Шахматаў прызнае Паўдзённа-расеjцаў патомкамі Вяцічаў, Северан залічае да пляменаў украjінскіх, адносінаў сваjіх да Крывічоў не мяняе, але выступае зь гіпотэзаю мешанага, славянска-мешанага паходжаньня беларускага народу. Паводле гэтае гіпотэзы першым насяленьням Беларусі ад заходніх яе граніцаў ажно паабапал Дняпра былі польскія племёны, каторыя называліся Дрыгвічамі j Радзімічамі. Гэтыя племёны падпалі ладне пад асыміляцу ўкраjінскага плямя Дзераўлян, што прыjшло з паўдня. Гэтая мешанка далеj была асыміляваная Вяцічамі, каторыя ўжэ цяпер ё „ўсходня-рускае" плямя ды прыjшлі з усходу. „Паўночнарускае" плямя Крывічы часткава было таксама асыміляваная ўсімі гэтымі, часткава адсунена на поўнач. Гэтак паўстаў беларускі народ і ягоная мова. Нягледзячы на гэтую размавітую мешанку зь неаднолькаваj колькасьцяj складо-

вых часьцеў, чамусьці ў канцы ў Шахматава выходзе, што најдужшымі аказаліся Вяцічы ды што Беларусы најбліжшыя да Паўдзённа-расејцаў. Свае вывады А. Шахматаў апірае на летапісцавај вестцы, што Радзімічы „отъ рода ляховъ“ ды на беларускім дзеканьню-цеканьню.

Тэорыјі Шахматавае аб мешаным паходжаньню беларускага народу ніхто ня прызнаў, яна асталася, як штось, што выходзе за межы навуковых дасьледаваньнеў ды ўходзе ў сфэру фантазі. Зацемкі проці яе зрабіў Е. Карскі („Бѣлоруссы“) ды гісторык Даўнар-Запольскі. Апошні зьвярнуў увагу, што ў Вялікім Княстве Літоўскім ня было жаднага цэнтралізму, а быў лад фэдэрацыјны, дзеля таго, калі-б у јім апынуліся розныя славянскія мовы ці нарэччы, дык яны таковымі асталіся-б дагэтуль.

Гэтым самым Даўнар-Запольскі прызнае Беларусамі таксама Крывічоў. Але расејскія філёлёгі і гісторыкі ўсі прызнаюць Крывічоў племеням расејскім. Гэтае непрызнаваньне беларускім најразьвітшага палітычна і культурна племені, племені з најслаўнејшымі мястамі — Смаленскам і Полацкам — ё аналёгічнае да Пагодзінска-Сабалеўскага гіпотэзы аб тым, што Вялікае Княства Кіеўскае было не ўкраінскае, а расејскае. У Украінцаў як гісторыкаў (Антановіч, Леантовіч), так і філёлёгаў гэтая гіпотэза сустрэла војстры адпор і прымушаны былі прызнаці яе някрытычнасьць ды немагчымасьць навет самыя Расејцы. У Беларусаў, апрача менаванага Даўнара-Запольскага, ніхто ў друку проці прызнаваньня Крывічоў расејскім племеням ня выступіў. Але трэба адцеміць, што ніхто з гэтаю гіпотэзаю ј не згадзіўся. Ня знајдзеце ні воднага Беларуса, каторы-бы прызнаваў, што ў X. стагодзьдзю Смаленск ці Полацак ня былі беларускія. Але ніхто такжа не падаў і јіншае тэорыјі.

Заданьням мајім ё паказаць, як запраўды было. Зраблю гэта на аснове мовы, гэтага најоб'ектыўнејшага сьвядоцтва. Гістарычныя дадзеныя зачаплю натолькі, наколькі можа здавацыся, што яны пярэчаць вывадам, зробленым із языковых фактаў.

Ані А. Шахматаў, ані ніхто јіншы грунтоўна не зајмаліся беларускімі нарэччамі, а тымчасам із гэтага боку можна спадзявацца разьвязаньня пытаньня аб расьсяленьню беларускіх пямёнаў.

Языковаю зьяваю беларускаю, каторај дыялектычныя розьніцы ё адбіткаю спачатных пляменных дыфэрэнцыяцаў у мове, агульна прызнаецца аканьне, г. зн. пераход ненацісьненых самагукаў у *а*. Само аканьне ў памятках знаходзім толькі пачынаючы з XIV ст. ўлучна. Але важна, што ў некаторых стара-беларускіх памятках замена літары *е* літараю ѣ ё толькі ў складзе перад мяккім сугукам. Напры-

клад гэтак ё ў смаленскај грамаце 1229 г. (сьпісак А) а 1240 г., у ўмове Полацку з Рыгаю 1330 г. (А. Шахматаў „Курс“ 150). „Выясьняецца гэты тым — кажа А. Шахматаў (ibid.) — што гукі е ј ѣ зьлілiся зусім толькі перад мяккім сугукам, бо перад цьвярдым замест е вымаўлялася ö — о (а ў ненацісьненых складох а, α), а замест ѣ прынамся пад націскам е адкрытае“.

Што само аканьне мусіла ўзьнікнуць да XIII ст., бачым із таго, што з гэтага стагодзьдзя Беларусы ј Паўдзённа-расејцы жывуць зусім асобным жыцьцём, а тымчасам адны ј другія маюць аканьне, і, як пабачым ніжэј, т. зв. паўдзённа-расејскае аканьне зусім аднолькавае з аканьням заходне-беларускім.

Аканьне разьвілося як рэзультат рэдукцы ненацісьненых самагукаў, прычыненае эксьпіраторна-змоцненым націскам. Што запраўды была гэткая рэдукца, бачым із тага, што ў *а* пераходзяць ня толькі *е*, *о*, але таксама ў некаторај меры *ы*, *і*, *у*, а асабліва з таго, што на месцу *а*, *о*, *ъ*, *е*, *ѣ*, *ь* знаходзім дыялектычна таксама *ы*, *і*. А. Шахматаў прызнае, што рэдукца самагукаў настала ў пару прадгістарычную („Курс“ 325). У іншым месцу А. Шахматаў луча рэдукцу самагукаў із адлучэньням Вяцічаў у VII—VIII ст. ад „усходне-славянскае радзімы“. З гэтага бачым наколькі раньнюю пару ён прызнае ўзьніку гэтае асаблівасьці. Што запраўды рэдукца ненацісьненых самагукаў вельмі раньняя, бачым яшчэ з таго, што таксама ў Славенцаў ё аканьне. Дзеля таго трэба думаць, што рэдукца ненацісьненых самагукаў узьнікла ўжэ дыялектычна ў мове праславянскај. Дык няма дзіва, калі ў такој старој зьяве ўзьніклі розныя тыпы, паводле каторых галоўным спосабам дзелім беларускую мову на нарэччы.

Увесь беларускі язык трэба падзяліць на дзьве вялікія групы, а пајменна на нарэччы: а) дысыміляцыјна-акаючае, b) недысыміляцыјна-акаючае.

Дысыміляцыјнае аканьне характарызуецца тым, што на месцу этымолёгічных самагукаў *а*, *о* (старога і з *ъ*), *е* (старога і з *ѣ*, *ь*) ё ў першым складзе перад націскам *а*, калі націсьнены склад ня мае *а*; а калі націсьнены склад із *а*, менаваныя ненацісьненыя самагукі пераходзяць у *і* (па цьвярдых і ацьвярдзелых сугуках у *ы*). Прыкладам: *касу*, *нагі*, *кажу*, але *кыса́*, *ныга́*, *кыза́ў* і пад.

У нарэччу недысыміляцыјна-акаючым на месцу ненацісьненых самагукаў *а*, *о* рознага паходжаньня ды *е* рознага паходжаньня ё ў першым складзе перад націскам *а*, бяз розьніцы які самагук мае націсьнены склад. Прыкладам: *дачка́*, *галава́*, *чапяла́*, *чалаве́к*, *зямля* і пад.

Нарэчча дысыміляцыјна-акаючае зајмае паўночна-ўсходнюю часьць языковага прастору беларускага, нарэчча

недысыміляцыјна-акаючае зајмае сярэднюю ј паўднёва-заходнюю часьць гэтага прастору. Граніцы паміж гэтымі нарэччамі паводле Е. Карскага („Бѣлоруссы“ I) ідзе ад Корсаўкі на поўначы на паўднёвы ўсход — каля м. Себежа, Гарадка, Віцебска, Горак, Чавус, Прапојска, пераз р. Беседзь да Навазыбкава і далеј на паўднёвы ўсход да граніцы з моваю ўкраінскаю. Усходняя ј паўночная граніца нарэчча дысыміляцыјнага ё адначасна граніцаю беларускае мовы з паўднёва-расејскім і паўночна-расејскім нарэччам. Разам із пераходнымі на беларускај аснове гаворкамі, ці јіншымі славамі, разам ізь беларускімі гаворкамі, маючымі вялізны расејскі ўплыў, граніца гэтага нарэчча з паўднёва-расејскім паводле аўтараў „Опыта діалектологической карты русскаго языка въ Европѣ *) праходзе па ўсходняј граніцы б. Смаленскае губ., далеј зајмае заходнюю, большую часьць Калускае губ., невялікую часьць Арлоўскае губ. і далеј усходняю граніцаю Чарнігаўскае губ. ідзе на паўдня да граніцы з украінскаю моваю.

Тую мову на пагранічч у беларуска-расејскім, каторую А. Шахматаў прызнаваў моваю расејскаю, што быццам узьнікла пад уплывам паўночна-расејскага нарэчча з мовы Вяцічаў, аўтары „Опыта діалектологической карты рус. яз. въ Европѣ“, Н. Дурнаво ў „Діалектологическихъ разысканіяхъ“ і јіншыя проста прызнаюць пераходнаю беларуска-расејскаю гаворкаю на беларускај аснове, г. значыцца вельмі абруселаю беларускаю моваю.

Я адцеміў гэтую граніцу з паўднёва-расејскім нарэччам, бо далеј на ўсход будзе накшы тып аканьня. З гэтае-ж прычыны трэба паказаці беларуска-расејскую граніцу на поўначы—у Пскоўшчыне ј Цьвершчыне.

Е. Карскі гэтую граніцу праводзе па паўднёвај часьці Апочацкага, Вялікалуцкага ј Тарапецкага пав. Пскоўшчыны ды Асташкаўскага ј Ржэўскага пав. Цьвершчыны. Аўтары вышменаванае дыялектолёгічнае карты прызнаюць мову блізу што ўсяе Пскоўшчыны (апрача павету Порхаўскага і паўночнае часьці пав. Холмскага) ды паўднёва-заходняе часьці Цьвершчыны пераходнымі расејска-беларускімі гаворкамі на паўночна-расејскај аснове. Чыя тут аснова, пабачым ніжэј.

---

*) Труды Московской Діалектологической Комиссіи под редакціей председателя комиссіи Д. Н. Ушакова.

В. 5. Опытъ діалектологической карты русскаго языка въ Европѣ съ приложеніемъ Очерка русской діалектопогіи. Составили члены комиссіи Н. Н. Дурново, Н. Н. Соколовъ и Д. Н. Ушаковъ. Москва 1915.

Пры выданьню проці волі аўтараў карты граніцы на ёј былі схвалшаваныя, што ј адцемілі аўтары у свајім „Очерку“; дзеля таго аднэј картај бяз „Очерку“ нельга карыстацца. На схвалшаванај карце прастор зајманы беларускај моваю паказаны меншы, чымся ё запраўды і чымся азначаны ў „Очерку“.

Недысыміляцыјнае аканьне беларускае можна падзяліць ізноў на дзьве часьці: а) на в я л і к а е а к а н ь н е, у каторым кожнае ненацісьненае *о*, *е* розных паходжаньнеў пераходзяць у *а**) і b) на мернае а часткава ј слабое, у каторым у большај альбо меншај ступені сустракаюцца ненацісьненыя *о*, *е*. Чым бліжэј да польскае ј украјінскае граніцы, тым аканьне слабшае. Граніца між гэтымі тыпамі аканьня праходзе прыблізна ад м. Радуня ј Ліды па ўсходняј часьці Наваградзкага пав., паўднёвај часьці Слуцкага ј Бабрујскага пав. далеј да Гомеля ј Навазыбкава.

У паўночна-ўсходняј часьці вялікага аканьня ё мясцовасьці, у каторых пабач із *а* па цьвярдых сугуках ё *і* па сугуках мяккіх у складох перад націскам, калі націсьнены склад із *а*. Прыкладам: сістра, сім'я, пры — сястры, сямјі, галава. Дзеля таго Н. Дурнаво ў свајіх „Діалектологическихъ разысканіяхъ“ **) думае, што недысыміляцыјнае аканьне гэтых мясцовасьцеў стварылася з дысыміляцыјнага. Але гэта немагчыма. Гэтая ўся паўночна-ўсходняя часьць вялікага аканьня складае паводле јіншых асаблівасьцеў апрычоную гаворку. У гэтај гаворцы ё ладне мясцовасьцеў, каторыя пры ўсёј јіншај згодзе з рэштаю гаворкі ня маюць дысыміляцыјнага аканьня па мяккіх сугуках. Таковае аканьне ё прыкладам у часьцех п. п. Барысаўскага, Магілеўскага, Сяньскога, Браслаўскага***), цяперашняга Валожынскага і јіншых. У такім, прыкладам, Сяньскім павеце не магло недысыміляцыјнае аканьне ўзьнікнуць пад уплывам із заходу, бо ляжыць гэты павет далёка ад недысыміляцыјна-акаючае па мяккіх сугуках паўдзённа-заходняе гаворкі. Апрача таго, у цэлај цэнтральнај гаворцы маем частыя прыпадкі пераходу ненацісьненага *ы*, *і* ў *а*. Прыкладам: патаецца, пасалае, вяшнёвы і пад, замест — пытаецца, пасылае, вішнёвы. Сыстэматычна пераход ненацісьненага *і* ў *а* маем па сугуках ацьвярдзелых *р*, *ж*, *ч*, *ш*, *ц* 1) у назоўных јімёнах зьмяншальных (кошак=кошык, пальчак=пальчык, вожак=вожык і јіншыя); 2) у жаноцкіх јімёнах на—іха (Юрчаха=Юрчыха, Рыгораха і пад.); 3) у дзеяпрыслоўю мінулым на—шы (памыўшасі=памыўшыся, забыўшасі=забыўшыся). Па цьвярдых сугуках маем *а* на месцу этымолёгічнага *ы* ў творным склоне множнага ліку ў канчатку прыкметаў (навамі=новымі, беламі, шэрамі). Гэта самое бачым у вялікім

---

*) Якім ё цяпер в я л і к а е а к а н ь н е, такім яно было ј каля XVI ст. Гэтак аканьне разгледжанае мною кнігі „Аль-Кітаб“, напісанае ў першую палову XVI ст. арабскім пісьмом у народнај мове віленска-ашмянскај ня розьніцца ад аканьня цяперашняга.

**) Н. Н. Дурново: Діалектологическія разысканія въ области великорусскихъ говоровъ. Южновеликорусское нарѣчіе. І-?. бал. 12 ў зацемцы і бал. 13, зацемка 1.

***) Ibid. бал. 15—16 і зацемкі.

аканьню паўдзённа-расейскім. З гэтага можна выводзіць, што тыя часьці цэнтральнае гаворкі беларускае, дзе па мяккіх сугуках ё цяперака дысыміляцыјнае аканьне, спачатна мелі па ўсіх сугуках аканьне недысыміляцыјнае і толькі пасьлеј пад уплывам дысыміляцыјнага аканьня паўночна-ўсходняга нарэчча зьмянілі па мяккіх сугуках у аканьне дысыміляцыјнае.

Сказанае можна падперці ј гісторыяј. Па ўтварэньню ў Беларусэў моцнага гаспадарсьцьвенага цэнтру ў Полацку, ішлі ўплывы з Полаччыны на заход. Аб гэткім кірунку ўплываў сьведчыць гісторыя пашырэньня Полацкага гаспадарства і гістарычная географія (назовы „Крывічы“ і пад.) навет у такіх мясцовасьцех, дзе па мяккіх сугуках маем недысыміляцыјнае аканьне (Палачаны). Нельга сумлявацца, што новая—пазьнејшая—беларуская гаспадарсьцьвенасьць, ведамая пад назовам „Літвы“, јідучая із заходу, ужо ня здолела зацерці гэных ранејшых уплываў.

У часьці расејскае мовы—у так званым паўдзённа-расејскім нарэччу і цэнтральных гаворках таксама ё аканьне. Важна даведацца, у якіх адносінах да беларускага ё расејскае аканьне.

Як бачым із дасьледзінаў Н. Дурнава (Діалектологическія разысканія І. 2.) цэнтральныя расејскія гаворкі, разам із гаворкаю самае Масквы, узьніклі з паўночна-расејскага нарэчча пад уплывам з паўдня мовы акаючае. Уплыў гэты адбіўся блізу што ў вадным аканьню. З часам гэтыя цэнтральныя гаворкі, як мова гаспадарсьцьвенага цэнтру малі і дагэтуль маюць вялікі ўплыў на паўдня ј поўнач ды перазь літаратурную расејскую мову наагул усюды.

У паўдзённа-расејскім нарэччу, апрача тыпаў аканьня, аб каторых напэўна ўстаноўлена, што яны ўзьніклі пад пазьнејшым уплывам цэнтральных расејскіх гаворкаў, ё тры тыпы аканьня: a) розныя тыпы дысыміляцыјнага аканьня па мяккіх сугуках, b) т. зв. мернае аканьне (яно паводле свајга характару ня мае нічога супольнага зь беларускім аканьням на заходзе ј паўдні, каторае таксама завуць мерным або слабым), c) вялікае аканьне.

Тыпы дысыміляцыјнага аканьня па мяккіх сугуках ё ў паўдзённа-заходняе часьці Тульскае губ. ды ў ладнај часьці Арлоўскае ј Курскае губ. Менаваныя мясцовасьці мяжуюць із беларускаю моваю і аканьне јіх ставяць у беспасярэднюю сувязь із беларускім дысыміляцыјным аканьням *).

Мернае аканьне. Гэтак названы расејскімі філёлё-

*) Н. Дурново „Діалект. раз“. І—2.

гамі тып аканьня, у каторым у складзе перад націскам вымаўляецца па мяккіх сугуках перад цьвярдымі а, але перад мяккімі *і* або вельмі закрытае *е*. Мернае аканьне вельмі пашырана паміж цэнтральнымі расейскімі гаворкамі. У сваjіх дасьледзінах Н. Дурнаво (ibid) знаjшоў, што „мернае аканьне ў паўдзённа-расейскім нарэччу пашырана шмат менеj, як дысыміляцыjнае j вялікае аканьне, пры тым-жа яга знаюць толькі тыя гаворкі, у каторых ё некаторыя зьявы супольныя з цэнтральна-расейскімі гаворкамі, узьніклымі па ўтварэньню расейскае мовы або перанесеныя сюды з цэнтральна-расейскіх гаворкаў (ibid., бал. 77).

У гаворках паўночна-расейскіх — а значыць таксама ў цэнтральна-расейскіх, пакуль ня ўзьнікла ў jіх аканьне—*е* (на месцу *е* а *ъ*) націсьненае j ненацісьненае вымаўлялася перад мяккімі сугукамі як *е*, але перад цьвярдымі пераходзіла ў *о*; дыялектычна *ѣ* перад цьвярдымі пераходзіла ў *о* (пётух) і ў *і* або *е* перад мяккімі; дыялектычна *а* (націсьненае j ненацісьненае) па мяккіх сугуках перад мяккімі пераходзіла ў *е*, але аставалася перад цьвярдымі. Дык за старыя ненацісьненыя *е*, *ъ*, *ѣ* было перад цьвярдымі сугукамі *о*, але перад мяккімі *і* альбо *е*; за *а́* было перад мяккімі сугукамі *е*, але *'а* перад цьвярдымі. Паўночна-расейская мова (каторая стварае аснову цэнтральна-расейскіх гаворкаў) пры пераjманьню аканьня з паўдзённа-расейскае мовы паўперад магла сабе прысвоjіць вымову ненацісьненага *'о* як *'а* ды разам таксама вымову *'а* замест *'о* на месцу старых ненацісьненых *е*, *ъ*, *ѣ* перад цьвярдымі сугукамі. Але перад мяккімі сугукамі на месцу старых *е*, *ъ*, *ѣ* ў першым складзе перад націскам было *і* або *е*, каторыя пад уплывам акаючага нарэчча не пераходзіла ў *а*, але аставалася як *і* resp. пераходзіла ў *і*. Дзеля таго добра кажа Н. Дурнаво, што ў цэнтральна-расейскіх гаворках „варункі былі спагаднеjшыя дзеля развою мернага аканьня, як у паўдзённа-расейскіх гаворках, бо ў паўночна-расейскаj мове залежнасьць самагукаў ад цьвярдзіні j мякчыні наступных сугукаў праяўляецца мацнеj“ (ibid. 83).

Н. Дурново гэтак канчае аб мерным аканьню: „Дзякуючы гэтым асаблівасьцем паўночна-расейскага вакалізму, мернае аканьне магло паўстаці ў цэнтральна-расейскіх гаворках ня толькі пад уплывам мернага аканьня паўдзённа-расейскіх гаворкаў, але таксама пад уплывам кожнага jіншага аканьня, прынамся такога, у каторым па мяккіх чаргуюцца *а* j *і* пры якіх колечы ўмовах. Дык дзеля ўтварэньня мернага аканьня ў цэнтральна-расейскіх гаворках нямаш патрэбна дапушчаць яго быцьцё у паўдзённа-расейскім нарэччу” (bid., 84). І хоць Н. Дурнаво пакуль-што хоча зьдзержыцца ад заявы, было ці не ў паўднёва-расейскім

нарэччу мернае аканьне, то аднак даволі ясна, што яга тамака спачатна ня было, але яно пасьлей было перанесена з цэнтральна-расейскіх гаворкаў.

Вялікае аканьне. „У паўдзённа-расейскім нарэччу — кажа Н. Дурнаво — вялікае аканьне вельмі пашырана паміж іншым у такіх гаворках, што стаяць чыста з боку ад паўночна-расейскага або цэнтральна-расейскага ўплыву, на што паказуе тое, што нямашака ў іх сьцягу асаблівасьцеў паўночных расейскіх паводле паходжаньня або ўзьніклых па ўтварэньню расейскае мовы, уласьцівых як паўночна-расейскім і сярэдне-расейскім, так і шмат якім паўдзённа-расейскім гаворкам (Діалектологическія разысканія I-2, 75). З гэтага ё вывад, што „вялікае аканьне ў паўдзённа-расейскім нарэччу разьвілося не пад уплывам сярэднерасейскіх гаворкаў, але на грунце паўдзённа-расейскім, з дадзеных, што былі ў самых паўдзённа-расейскіх гаворках, разьвіваючых таковыя аканьні“ (ibid.).

Як бачым із сказанага, спачатна паўдзённа-расейская мова мала адзін недысыміляцыjны тып аканьня — т. зв. вялікае аканьне.

Посьле прыведзенага вываду аб паходжаньню паўдзённа-расейскага вялікага аканьня, здавалася-б, што таксама трэба прызнаці самастоjнасьць паўстаньня вялікага аканьня ў беларускаj мове. Але Н. Дурнаво гэтага ня робе. Яму здаецца, што „ў Беларусі вялікае аканьне ў першым складзе перад націскам злучанае із захаваньням ненацісьненага *о* ў некаторых складох па націску, а гэта паказуе, што аканьне ў таковых гаворках узьнікла не арганічна, але пад уплывам іншых акаючых гаворкаў“ (ibid. бал. 26). Апрача таго, Н. Дурнаву далеj здаецца, што ў беларускіх гаворках із вялікім аканьням ё „*у* ў некаторых прыпадках, нязнаных гаворкам паўночна-ўсходняе (дысыміляцыjна-акаючае) групы ды вялікая лічба ўкраjінскіх рысаў“ (ibid., бал. 28, у 1-аj заценцы). Па такіх веданьнех аб гэтых гаворках беларускіх Н. Дурнаво прыходзе да перакананьня, што ў „паўднёва-заходніх беларускіх гаворках (гэта значыцца ў недысыміляцыjна-акаючым нарэччу — *Я. С.*) мусіць вялікае аканьне ўтварылася ў большасьці не з дысыміляцыjнага, а замяніла сабою даўнейшую окаючую (ўкраjінскую) вымову“ (ібід. бал. 27).

Але прыведзеныя дадзеныя Н. Дурнава аб асаблівасьцех вяліка-акаючых беларускіх гаворкаў не адпавядаюць праўдзе. У цэнтральнаj гутарцы ніколі не сустракаем ненацісьненага *о*, а ў паўдзённа-заходніх гутарках із вялікім аканьням ё толькі ў вадным месцу ненацісьненае *о*, г. зн. ў родным склоне (gen. sg) мускіх і ніякіх прыкметаў із націскам на караню. Аднолькава ё ў віленска-ашмянскаj

гутарцы. Гэтае ненацісьненае *о* зусім лёгка магло зьявіцца аналёгіяю да заjмёнаў *ягó, тагó* і пад., дзе *о* пад націскам. *о, е* ў гэтых вяліка-акаючых гаворках не пераходзіць у *у*. Таксама нямаш у jіх жадных украjінскіх рысаў. Ненацісьненае *о, е* ў тоj ці jіншаj меры пачынаецца на заход і паўдня ад вялікага аканьня ў гаворках, што вялікага аканьня ня маюць; *у* ў ведамых прыпадках сустракаецца толькі ў палескіх гаворках, а ўкраjінскія рысы на ўкраjінскім пагранiччу, як, з другога боку, беларускія рысы ё ў паўночна-ўкраjінскім нарэччу (прыраўнуj аб усім гэтым у Е. Карскага „Бѣлоруссы" I). Што дзьве суседнія мовы на пагранiччу ўзаемна на сябе ўплываюць, ё зусім зразумела. Асабліва гэта мусіць быці на пагранiччу беларуска-ўкраjінскім, бо паміж Беларусяj і Украjінаj блізу што ніколі ня было трывалкіх гаспадарсьцьвеных граніцаў. Дыкжэ ў тым ё абмыла Н. Дурнава, што асаблівасьці гутаркаў палескіх ды гутаркаў пагранічных прыняў за асаблівасьці гутаркаў ізь вялікім аканьням і паводле гэтага азначыў паходжаньне вялікага аканьня ў беларускаj мове. Дык, калі-б і прыняць крытэрыjі Н. Дурнава, мы мусілі-б прыjсьці да адваротнага зробленага jім вываду, а паjменна: дзеля тага што ў беларускіх гутарках ізь вялікім аканьням украjінскіх і jіншых уплываў зусім нямашака, аканьне праведзена консэквэнтна, нямаш жадных прычынаў не ўважаці яга за ўзьніклае на беларускім грунце незалежна.

Мы бачылі, што рэдукца ненацісьненых самагукаў настала яшчэ ў тую пару, калі праславянская мова, хоць ужэ дзялілася на дыялекты, але жыла яшчэ суцэльным жыцьцём. Дзеля таго рэдукцыjная хваля а потым аканьне слабела, прыбліжаючыся да нарэччаў, пазьнеjшых языкоў, што рэдукцы j аканьня ня зналі. Таковаj меншаj ступеняj вялікага аканьня ё аканьне мернае або слабое, што цягнецца на заход і паўдня ад яга.

**Др. Я. Станкевіч.**

(Далеj будзе).

---

# Да беларускага перакладу „Слова аб палку Ігоравым".

Янка Купала зрабіў добры пераклад „Слова аб палку Ігоравым" *) на сучасную беларускую мову. Ядцемлю некаторыя цікаўнейшыя выражэньні зь перакладу: „пушчаў ён дзесяць сакалоў на лебядзіны *груд*", „ня дзесяць сакалоў на лебядзіны *груд* пушчаў", „галіцы *грудам* бягуць да вялікага Дону". Тут *груд* абазначае грумаду, кучу; зьменшанае будзе *грудок*, значучае тое, што мы няправільна азначаем чужым словам *гурток*. *Груд*, *грудок* значыць яшчэ невялічкае ўзвышша на сенажаці, або ля сенажаці. „Сольнце ему тьмою путь заступаше" перакладзена: „Сонца яму цямнотаю дарогу *засьціла*". Таксама вельмі добра перакладзена „чьрныя тучя с моря ідуть, хотять прікрыті 4 солньца" на „чорныя хмары ідуць з мора, хочуць *прыцьміць* чатыры сонцы"; „а древо с тугою к землі пріклоніся" перакл. — „а дрэва з тугі на зямлю *пахінулася*"; „злата і сребра ні мало того потрепати" перакл. — „золатам і срэбрам і тым таго не *пабразгаці*"; „опуташа в путіны железны" перакл. — „у *зялезьзе* закавалі"; „одолеті" перакл. — „сходаці"; „лучь" перакл. — „*каса*".

Заганы ў перакладзе невялічкія, вось яны: замест „улажыў... нагу ў залаты *страмень*" мела-б быць — „...ў залатое *стрымя*"; „галіці... хотять полететі *на уедіе*" перакл. „...на пажыву", а ляпеј было-б ...на жыр; „Уныша бо градом забрала" перакл. — „Засмучэньне ахапіла *агарады*", а трэ' было-б — Засмучэньне ахапіла (абняло) *сьцены замковыя*; „О моя *сыновьца*" перакл. — „О мае пляменьнікі", ляпеј было-б так і пакінуць „О мае сыноўцы", бо гэта слова беларускае; „Дружіну твою, княже, пътіці крілы *пріодеша*" перакл. „птушкі крыльлем *закрылі*", *апранулі* было-б бліжэј да арыгіналу і поэтычней, гэтак у јіншым месцу перакладу Я. Купала ј ужывае. „На Немізе *снопы стелють головамі*" перакл. — „На Нямізе *сьцелюць галовы, як снапы*". У варыгінале нямаш прыраўнаньня, а толькі сьцьвярджэньне факту, нельга сказаць „сьцелюць снапы, як галавы", бо слалі не снапы, а галавы. Мне здаецца, што пад словам „снопы" тут трэба разумець „пасады" (у гумне), а тады ј было-б — На Нямізе *пасады сьцелюць галавамі*. „Зегзіцею незнаема рана *кычеть*" нягодна перакл. — „па-

---

*) Гарэцкі, Дзяржынскі, Каравай. Выпісы з беларускае літаратуры. І. Менск, 1926, бал. 175. Дзеля таго што ў перадрукаваным у гэтај кнізе арыгінале „Слова" замест *ѣ*, *и* надрукавана *е*, *і*, дык і я так падаю.

кінутая, зязюлькаю ўраньні *стогне*“, бо Яраслаўна ня стогне, а плача-галосе. Замест „абмачу бабровы *рукаў*“ трэ‘ было сказаць — абмачу баброва *рукаво*. Замест „О вецер, вецер! чаму ты, валадар, вееш так дужа?“ мае быць — О ветру, ветру! чаму-ж ты, валада́ру, вееш...“, бо хвормы клічнага склону маем. Усюды ня добра ўжыта ў перакладзе *Ігар*, бо ў народнај мове чуем *Ігор* (націск на канцы).

Нельга ўдзержыцца, каб за адным гакам ня прывесьці з арыгіналу „Слова аб палку Ігаравым“ некалькіх слоў аднолькавых із словамі ў цяперашняј мове беларускај. Прывяду адно як прыклады, ня думаючы ўсіх вычэрпаваць: „уже бо беда его пасеть птічі по *дубію*“. Паводле хвормы апошняе слова зборнае ад „дуб“, але па значэньню здаецца будзе адпавядаць слову „дубцы“ (—розгі), значыць абазначала-б наагул кусты. Так гэта зразумеў і Янка Купала, пераклаўшы „ў гальлі“. „русьскыя пълкы *оступіша*“, заўсёды кажам „абступіць хату, места, војска“; ё прыслоўе „воступіцај“ зн. абступаючы; „поскепані“ — пашчапаны, „жадьні веселія“ — жаднае вясёласьці; „о моя *сыновьца*“, у Горадзенскім павеце кажуць на братняга сына „сыновец“, а на братнюю дачку „даччанка“. „Хінова, Літва і ятвязі“, „Хінова хіба = Фінова (ад Фін), зн. *х* з *ф*, як звычајна ў беларускај мове. „бологомь посеяні“ = добром...; „прыпеўку“, „туга“ „смага“ гримлють, дзе *и* з *ъ*.

Ніхто дагэтуль не зрабіў драбязнага прыраўнаньня поэтычных спосабаў „Слова“ з таковымі-ж спосабамі беларускае народнае поэзі, але адразу кідаецца ў вочы, што яны згаджаюцца. Некаторая згоднасьць проста б‘е ў вочы. Прыкладам: „На Немізе снопы стелють головамі, молотять цепы харалужнымі, на тоце жівот кладуть, веють душю от тела. Немізе кровавi брезі не бологомь бяхуть посеяні, посеяні костьмі русьскых сынов“. Або прыраўнаньне „Солньце светіться на небесі, Ігорь князь в русьской землі“ чыста адпавядае прыраўнаньню ў беларускај народнај песьні —

„Выплыў месячык, выплыў ясьненькі,
Як млынавое кола;
Выјдзі, дзяўчына, сэрца адзіна,
Прамоў хоць слова“.

*Я. Станкевіч.*

---

# Да вымовы j правапісу чужых словаў.

У 1921 г. я напісаў артыкулік „Правапіс чужых словаў“, каторы Беларускае Выдавецкае Т-ва выдала асобным лістком. Сказанае ў гэным артыкуліку тады, астаецца наагул правільным і цяперака. Аднак гэнам сказана надта мала, сказана недаволі, дзеля таго хачу гэтта дапоўніць.

Чужыя словы ў беларускај мове трэба падзяліць на дзьве групы: 1) словы паходжаньня заходне-эўропэјскага і 2) словы, пазычаныя ў јіншых народаў славянскіх. Чужых словаў, неналежачых да гэтых дзьвюх групаў, ё ў беларускај мове вельмі мала ды яны чыста зьбеларушчаны, дык ня можа быць гутаркі аб апрычоным правапісе јіх. Паміж чужымі словамі ў беларускај мове паходжаньня заходне-эўропэјскага ј јіншаславянскага гэт‘кая вялікая розьніца, што мусіць быць правапіс для јіх устаноўлены асобна.

## Словы заходне-эўропэјскія.

Як і ў јіншых эўропэјскіх народаў, у Беларусаў најбалеј чужых словаў паходжаньня лацінскага ды за лацінскім пасярэдніцтвам ладне словаў грэцкіх. Далеј јідуць словы, пазычаныя ў Немцаў і Французаў. Аб пазычэньнех у јіншых эўропэјскіх народаў нямашака патрэбы гаманіць, бо јіх дужа мала. На словы грэцкія, што прыјшлі ў беларускую мову пасярэдніцтвам старацаркоўна-славянскім ці — ясьнеј—старабаўгарскім, беларуская мова рэагуе як на словы славянскія, дзеля таго јіх трэба разглядаць у вадзьдзеле словаў јіншаславянскіх.

На пачатку трэба адцеміць, што ў беларускај мове чужыя собскія јімёны людзёў, местаў, рэкаў і г. д., паколькі яны не пабеларушчаныя, пішуцца так, як вымаўляюцца ў чужој мове, а ня так, як пішуцца чужнікамі ў јіхніх мовах. Прыкладам пішам: Лёјд-Джордж, Брыян, Клемансо, а не—Lloyd George, Briand, Clemenceau. Але назовы газэтаў, кнігаў, навуковых і літаратурных працаў заховуюць свој правапіс. Гэтак трэба пісаць—„Temps“, „Times“, , Chicago Tribune“, „Trois Mousquetaires“, а ня — „Тан“, „Тајмс“, „Шыкаго Трыбюн“, „Труа Мускетэр“.

Уходзячы ў беларускую мову, чужыя словы паддаюцца яе ўплыву і дзеля таго часта мяняюць некаторыя свае гукі ў вымове, а ня рэдка ј на пісьме.

Самагукі чужых словаў. Чужое *а* так і аста-

нецца ў беларускај мове. Таксама астануцца націсьненыя *о, е* ды націсьненыя ј ненаціcьненыя *и* (кір. у), *і*.

Але ненаціcьненыя *о, е* ў вымове беларускај пярэјдуць у *а*. На Менскај Акадэмічнај Конфэрэнцы дзеля рэформы беларускага правапісу ј азбукі 14-21. XI. 1926 г. было шмат спрэчкаў аб правапісе ненаціcьненага *о* чужых словаў. Частка ўчасьнікаў Конфэрэнцы даводзіла, што трэба кожнае ненаціcьненае *о* чужых словаў перадаваць на пісьме пераз *а*, але ўсі былі за захаваньне ненаціcьненага *е*. Гэтае адно адрозьняваньне паказуе, наколькі аргумэнты прыхільнікаў пісаньня *а* на месцу ненаціcьненага чужога *о* слабыя. Адрозьняваньне ў напісаньню ненаціcьненых *о, е* чужых словаў пакінула-б тую блытаніну на пісьме, каторај менаваныя прыхільнікі стараюцца ўсьцерагчыся сваёј рэформај.

Пазычэньні чужых словаў ё ў кожнај мове ненормальнасьцяј, за каторај мусіць прыјсьці „кара“, выяўленая ў цяжкім јіх пісаньню ды яшчэ ў цяжшым разуменьню. Чужыя словы ў нашај мове, каторыя народная гушча разумее добра ўва ўсіх појмах јіхніх, ужываных у нашај мове, будзем пісаць чыста пабеларуску. А словаў, каторых маса не даволі разумее, жадны правапіс не навуча яе добра напісаць. Тая-ж інтэлігенца, што чужыя словы дасканальна разумее, патрапе јіх добра напісаць і без акаючага правапісу. Не даволі разумеючым чужыя словы інтэлігентам паможа ляпеј јіх зразумець ды правільна напісаць агульны ј ортографічны слоўнік. Хај нас Бог крые аканьня на пісьме без належнага разуменьня: зрабіла-б яно цэлы хаос! Дык правапіснае правіла мае астацца старое, устаноўленае Б. Тарашкевічам: замест ненаціcьненых чужых *о, е* пішам *а* адно тады, калі чужое слова сталася народным у беларускај мове. Прыкладам: *манастыр, дакляраваць, літара*. У словах, як—*дырэктар, інспэктар, інструктар* і да г. п. пішацца—*ар* па прыкладу беларускіх словаў тыпу *чытар, пісар*.

Але ненаціcьненае чужое *о, е* ў беларускај мове было-б няпрыродна ј дзіўна ня вымаўляць як *а*. Дык прыкладам маем пісаць *поэта, поэтка, тэатр*, але казаць—*паэта, паэтка, таатр*.

Нямецкае ü перадаецца ў беларускај мове пераз *і* (*ы*). Прыкладам: *Brüknег* пішам *Брыкнэр*.

Канчатак—*іа*,—*іо* чужых словаў. Словы з гэт‘кімі канчаткамі прыјшлі ў мову нашую пераважна з мовы грэцкае ды блізу што вылучна пасярэднiцтвам мовы старацаркоўна-славянскае (Өеодосія). Блізу гэтулькі-ж ё сло-

ваў гэтых лацінскага паходжаньня. Дзеля таго што ўсі чужыя словы з канчаткам *—іа*, *—іо* падлягаюць у беларускај мове аднолькавым зьменам свајго канчатку, я јіх тут разгледжу разам. Ужо ладне як зацемлена, што канчатак *—іа*, *—іо* чужых словаў пераходзіць у беларускај мове ў *'а* за зьмякчэньням папярэдняга сугуку, калі тыј, ведама, можа зьмякчацца. На Менскај Акадэмічнај Конфэрэнцы 1926 г. сакратар Конфэрэнцы Я. Троська зьвярнуў увагу ў правапіснај комісі на гэтую беларускую асаблівасьць. Ён даслоўна сказаў: „Я выступаю, каб зьвярнуць увагу на адно зьявішча ў нашым пісьме. Мне здаецца, што гэтае зьявішча патрэбна будзе абгаварыць пры канкрэтным апрацаваньню нашага правапісу. Зацемце, што ў нашај беларускај мове няма ў назоўных јімёнах (substantiva) канчаткаў*—ія* (*—ыя*), *—іе* (*—ые*). Нашая мова сьцеражэцца јіх падваеньням ці іншым спосабам. Калі мы возьмем хаця-б слова *судзьдзя*, у старацаркоўна-славянскај мове было *—ия*; таксама*—куцьця*, *надвор'е* і г. д.; магчыма прывесьці цэлы сьцяг словаў, з каторых відаць, што ў беларускај мове мы заўсёды сьцеражэмся*—ія* (*ыя*), *—іе* (*—ые*). Калі мы возьмем чужаземныя словы, якія ўжываюцца ў нашај мове (асабліва з канчаткамі *—ыя* пасьля *ц*), напрыклад: *кампанія*, *канцылярыя*, *опэрацыя*, *рацыя* і г. д., то мы бачым, што ў народнај мове гэтае самае ўсьцеражэньне ад канчатку*—ыя* заховуецца поўнасьцю; мы кажам: *кампаня*, *губэрня*, а не *кампанія*, *губэрнія*, напрыклад: „ён ня мае *рацы*, яму не зрабілі *опэрацы*“ і г. д. Тут мы бачым, што народная мова ў чужаземных словах так сама ня прыјмае канчаткаў *—ыя* (*—ія*). Мне здаецца, што было-б зусім зразумела, калі-б мы гэтую асаблівасьць узаконілі ў мэтах набліжэньня літаратурнае мовы да народнае. Мне здаецца, што для гэтага ёсьць і падстава. Калі ёсьць такія пярэчаньні, што чужаземныя словы патрэбна захаваць у такім напісаньні, як яны ёсьць, то я падчыркую, што гэта ня так, бо кожны народ дадае да чужаземных слоў свае канчаткі; напрыклад возьмем слова *біблія*. Калі мы возьмем јіншыя мовы, нямецкую або францускую, то там гэтае слова мае свае канчаткі: die Bibel, la bible і г. д. Тое-ж самое ў словах *пропорция*, *гильдия* і г. д Кожны народ дадае да яго ўласьцівы канчатак, і мне здаецца, што было-б зусім рацыянальна, калі-б мы далі да чужаземных слоў свае беларускія канчаткі“ *).

Пропозыца Я. Троські адносілася-б вылучна да правапісу адно тады, калі-б, пішачы*—сія*, *—цыя* і пад. у чужых словах, нашая інтэлігенца вымаўляла*—ся*, *—ца* і г. д., але

*) Працы Акадэмічнае Конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. У Менску. 1927, бал. 251—2.

дзеля таго, што вымаўляе ня так як у мове народнај, але як сама піша, дык менаваная пропозыца выходзе за межы правапісу і датыча такжа граматыкі. Вышменаваная Менская Конфэрэнца не разглядала рэформы граматыкі, а толькі правапісу ј абэцэды, дык і закраненае Я. Троськаю пытаньне яна пакінула неразгледжаным.

Прыклады, прыведзеныя Я. Троськаю дапоўню сваіімі:

*Аксеня*, каля Клецка Нясьвіскага п. (запісана ад Я. Макрэцкага зь в. Янавічы);

*Алімпа*, a) ibid., b) в. Чатыркі, Краўское вол., Ашмянскага п. (у вапошнім месцу чуў і запісаў я), цсл. *Олимпія*;

*Аміля*, a) запісаў я ў в. Арляняты, Краўское вол., Ашмянскага пав., b) перадаў Я. Макрэцкі, як ужыванае ўсюды каля Клецка, лац. *Aemilia*, пол. *Emilja*;

*бібля*, грэцк. *biblia**), на біблі сядзеў Слуцкі пав., Сержпутоўскі II., 139; рабін сядзеў над бубляю ibid. 85.

*губэрня*, a) Азбукін, Географія Эўропы, 1924 г., b) Я. Макрэцкі, каля Клецка, c) *г(g)убэрня*, я чуў па ўсёј Краўскоj вол. і шырэј у Ашм. п., d) *губэрні*, Жылуновіч, Янка Купала ў Крытыцы, Менск. 1928, бал. 15, лац. *gubernio;*

*Ксеня*, јімя некалькіх Беларускаў у Вільні (Ксеня Забарончышка, вуч. В. Б. Г., Ксеня Лапіцкая і јіншыя), грэцк. *Ksenia*;

*ліня*, запісаў я ў в. Вој штавічы, Вішнеўскае вол., Валожынскага пав.;

*Маланя*, Я. Макрэцкі, каля Клецка, грэцк *Melania*, црсл. *Меланія*;

*Нястася*, запісана мною ў Ашм. пав., црсл. *Анастасія*, пол. Anastazja;

*Наталя*, Я. Макрэцкі, каля Клецка;

*Панася*, *Фанася*, запісана мною ў в. Чатыркі, Краўское в., Ашм. п., црсл. *Аѳонасія*;

*півоня*, a) У садку сядзіць паміж півоні Чарот, „Марына“ ў „Выпісы з Белар. Літар. XIX і XX ст.“ Ул. Дзяржынскага, бал. 496, b) *апівоня*, Я. Макрэцкі, каля Клецка;

*Разаля*, запісаў я каля Багданава, Валожынскага пав., лац. Rosalia, пол. Rozalja;

*Хвядося*, a) Я. Макрэцкі, каля Клецка, b) запісаў я ў в. Семярнікі, Альшанскае вол., Ашм. п., црсл. *Ѳеодосія*;

*Юля*, a) запісаў я каля Альшан, Ашм. п., b) Я. Макрэцкі, каля Клецка, лац. Julia, пол. Julja;

*Юстыня*, Я. Макрэцкі, каля Клецка, Нясьвіскага пав., прыр. рас. Устинья;

*Яўхіма*, Я. Макрэцкі, каля Клецка, цсл.—*Евфимія*.

---

*) Передаю грэцкія словы лацініцај, бо ў друкарні нямаш грэцкіх літараў.

Прыведзеныя месцы ля прыкладаў паказуюць адно на месца запісу, а пашыранасьць словаў шмат большая.

Прыведзеныя прыклады ўзядзены з народнае мовы, начај jіх выясьніць немагчыма, як толькі беларускај асаблівасьцяј, а тымчасам падобныя словы на *—ія, —ыя*, што можна пачуць ад інтэлігенцы, а напару і ад простага народу лёгка выясьняюцца ўплывам польскім і расејскім. У словах на*—ia, —io* нова перајманых із чужых моваў маем у нашај інтэлігенцы канчаткі *—ія, —ыя* дзеля таго, што, з аднаго боку, у мове яе яшчэ замала беларускага псыхолёгізму, каб яна магла вымову нова перанятых словаў заўсёды чуцьцём упадобніць до свае роднае мовы, а, з другога боку, нашая інтэлігенца ня ведае разгляданае асаблівасьці беларускае мовы; да гэтых дзьвюх прычынаў трэба дадаць яшчэ працілежны ўплыў расејскі ј польскі.

Я хачу яшчэ падчыркнуць сказанае Я. Троськаю (гл. вышэј), што за ўвядзеньне менаванае асаблівасьці ў практычную граматыку беларускую прамаўляе яшчэ тое, што і ў свајіх родных словах канчаткаў *—ія* (*—ыя*), ані *—іе* (*—ые*) беларуская мова ня знае; значыцца захаваньне менаванае асаблівасьці прычынілася-б да захаваньня нашај мовою яе арыгінальнасьці ј характэрнасьці.

Пераход канчатку *—ia* чужых словаў у *'a* за зьмякчэньням папярэдняга сугуку паказуе, што, *—i* ў гэтым канчатку стала нескладовым і тады было ўвабрана папярэднім сугукам, ад чаго ён зьмякчыўся.

З вышсказанага бачым, што доля групы сугук+j +*a* чужых словаў была накшај, чымся доля сугук+ьj+самагук (*a, e* і jінш.), каторая па заніку *ъ* таксама сталася была групај аднолькавај зь першаю—сугук+j +самагук (a, e, u і jінш.); прыкладам слова *halьje* перајшло ў *halje*, а потым у *halle*, *hallo* і, значыцца, у гэных (першых) няма здваеньня сугуку, а ў гэтым ё. Прыведзеная розьніца паказуе, што менаваныя зьмены адбыліся ў розныя часы. Таксама ў групе сугук+jь+самагук свајіх словаў, калі папярэдні сугук вусьняны (*б, п, м, в*), дык ён не асымілюецца зь *j* і дзеля таго няма яго здваеньня; гэтак маем *hallo*, але—*dubjo* (з—*dubьje*), *llu*, але—*pju, bju* (з—bьju), siamja (з—semьja) і г. д. Але, як відаць із вышпрыведзеных словаў *Алімпа*, *Яўхіма*, вусьняныя сугукі асымiляваліся зь j з *i*, а потым ацьвярдзелі. Гэта паказавала-б, што процэс у групе *—ia* чужых словаў адбыўся ранеј, чымся ў менаванај групе (як дуб'ё) словаў свајіх. Але магчыма такжа, што нескладовае *i* ў групе*—ia* ня зусім раўнялася *j*.

*r* (кір. *р*) у беларускај мове здаўна цьвярдое, дык яно не асымілявалася з *j* ані ў групе сваёј—сугук+ьj+самагук (зьвяр'ё, пер'е) ані ў групе чужых словаў—сугук+ia. Але ў гэтај другој групе трудна яшчэ сказаць, ці *i* ў канчатку*—ia*

па *r* (р) перајшло ў *j* і так асталося, ці асталося складовым, а потым перад *a* зьявілася протэтычнае (прыстаўное) *j*. Маем прыклады Historyja a Marjamie, Аль-Кітаб, але j—андынаръю (=ardynarju) Слуцкі п. Сержпутоўскі II., 79, на ардынаръі (=ardynarji) ibid., 72. Каб выясьніць як запраўды сталася, трэба балеј прыкладаў, а пакуль што пісаць як дагэтуль—гісторыя, ардынарыя і јіншыя.

Просьле *д*, *т* будзе таксама—*ыя*: *студыя*, *партыя*.

Па *г*, *к*, *х* будзе—*ія*: *Норвэгія*.

Правіла для практычнај граматыкі было-б гэткае: на канцы маем 1) —*ля*, —*ня*, —*ся*, —*ца* (а ня —лія, —нія, —сія,—цыя, прыкладам: *Юля*, *півоня*, *Настася*, *опэраца*; 2) —*ба*,—*ва*,—*ма*,—*па* (а ня—бія,—вія, —мія, —пія), прыкладам: *Яўхіма*, *Алімпа*. Па *д*, *т*, *р* у чужых словах маем на канцы—*ыя* (Ірляндыя, партыя, гісторыя), а па *г*, *к*, *х*—*ія* (Норвэгія, Валахія).

Сугукі перад *е* чужых словаў. У мовах—лацінскај, пранцускај і нямецкај, з каторых мы маем пазычаныя словы, сугукі *б*, *в*, *г* (h), *м*, *н*, *п*, *ф*, *х* перад *е* цьвярдыя. У беларускај народнај мове мы маем такія чужыя словы, як—г(g)убэрня, цэбар з—цэбэр, цабэрак, Бэрка, барлінка з—бэрлінка (род баркі, відавочна конструкцы перанятај у Бэрліне); вэксаль, леварвэр, канвэрт; гэтман, Амэрыка, Амарыканец з Амэрыканец, маханік з мэханік, мамэнт, нумар з—нумэр; маг(g)нэс, г(g)інарал з—г(g)енэрал; апараца з—опэраца; Фэлька, Хвэлька, хвэст, хэўра. У вышпрыведзеных і да јіх падобных прыкладах з народнае беларускае мовы перад *е* маем цьвярдыя сугукі. Гэта сьведчa даволі, што цьвярдыя сугукі *б*, *в*, *г* (h), *м*, *н*, *п*, *ф*, *х* перад *е* ў чужых мовах, астаюцца цьвярдымі ј тады, калі тыя словы пераняты ў мову беларускую.

Сугукі *г*(g) і *к* па сваёј прыродзе ня могуць быць цьвярдымі перад *е*. Дык маем г(g)ені, Кенінгсбэрг (з *е*, а ня—*э* па *g*, *к*).

Аб јіншых сугуках перад *е* будзе ніжэј.

Сугукі перад *і* чужых словаў. Сугукі *б*, *в*, *г*(g), *г*(h), *к*, *м*, *н*, *п*, *ф*, *х* чужых словаў перад *і* мяккія, бо ў свајіх словах нашае мовы менаваныя гукі перад *і* бываюць заўсёды мяккія, а ў чужых мовах яны перад *і* паўмяккія (сярэднія). Дык маем: кабінэт, рэвізя, энэрг(g)ія, міністар, ахвіцэр і јіншыя.

Гукі *ж*, *ч*, *ш* ў жадным палажэньню ў беларускај мове ня могуць быць мяккімі, бо ацьвярдзелі. Дык і *ж*, *ч*, *ш* перанятых словаў могуць вымаўляцца Беларусамі толькі цьвёрда, што мы ј абазначаем, пішучы просьле јіх *ы* (Чылі).

Так сама гук *р* ё толькі ў беларускај мове ацьвярдзелы, дык у свајіх і чужых словаў мы гэтую цьвярдзіню абазначаем, пішучы *ы* па *р* замест *і* (Рым, Парыж).

Гук *ц* ў беларускај мове ё цьвярды (цана, цэп, цэлы) і мяккі (дзеці, хадзіць). *Ц* мяккое бывае адно тады, калі яно ўзьнікла з праславянскага *т* паўмяккога (прыр. рас. дѣти, ходить), а ўсялякае *ц* старое, даўнејшае, праславянскае бывае ў беларускај мове толькі цьвярдым. *Ц* перајманае з чужымі славамі ё таксама даўнејшым, дык і яно ў беларускај мове бывае толькі цьвярдым. Значыцца маем: нацыянальны, соцыяльны, рацыянальны ј іншыя.

Дзеля таго што гукі *ж*, *ч*, *ш*, *р* і старое *ц* ёсьць у беларускај мове толькі цьвярдыя, дык яны цьвярдыя такжа перад *е* чужых словаў (Жэнэва, Манчэстэр, цэнт, цахнар і јінш.).

Гукі *д*, *т* ў беларускај мове ё адно цьвярдыя (дом, стол, сад, плот), бо калі *д*, *т* зьмякчаюцца, дык яны пераходзяць у *дз*, *ц* мяккія (у садзе, на плоце). У чужых мовах перад *і* ё *д*, *т* паўмяккія (сярэднія). Паміж беларускімі *дз*, *ц* і чужымі паўмяккімі *д т* перад *і* ё большая розьніца, чымся паміж беларускімі цьвярдымі *д*, *т* і чужымі паўмяккімі (сярэднімі ці—начај—паўцьвярдымі) *д*, *т* перад *і*. Дзеля таго, калі ў беларускую мову прыходзе чужое слова із сярэднім *д*, *т* перад *і*, дык гэныя *д*, *т* перајмаюцца Беларусамі як цьвярдыя. Прыкладам: *тыран*, *дыхт*, *дыхтоўка*, *тып*.

Калі чужыя *д*, *т* паўмяккія перад *і*, пераходзячы ў беларускую мову, цьвярдзеюць, дык і пагатове беларуская мова мае *д*, *т* цьвярдыя перад *е* чужых словаў, дзе яны цьвярдыя навет у тых мовах, з каторых чужыя словы пераняты. Прыкладам: *аптэка*, *матэрыя*, *літара*, *даклярававаць з—дэклярававаць*, *студэнт*.

*З*, *с* чужых словаў. *З*, *с* у беларускај мове перад *е*, *і* адзначаюцца вельмі вялікај мякчынёј. Дзеля таго чужыя паўмяккія *з*, *с* перад *і* адчуваюцца Беларусамі бліжшымі да *з*, *с* цьвярдых, чымся да беларускіх *з*, *с* мяккіх і ў беларускую мову перајмаюцца як цьвярдыя. Вось некалькі прыкладаў аб старыні ј народнасьці каторых нельга сумлявацца: *маг(g)азын*, *Зыдар*, *Базыль*, агульна пашыранае јімя, паміж іншым ужываецца ў Навазыбкаўскім п. (Палявој, О языке населения Новазыбк. у.), Базылёнак, прозьвішча беларускага пісьменьніка ў радавај Беларусі, Базылевіч, прозьвішча вучня Правасл. Дух. Сэмінарыјі ў Вільні, Сымон, в. Сыманы, Кабыльніцкае вол., Сьвянцянскага пав., празыдэнт, слова не старое, але народнае, пачало агульна ўжывацца тады, як зь Беларусі пачалі выяжджаць у Амэрыку.

Гэтак-жа, зь вельмі малымі водхінамі, *з*, *с* чужых словаў перад *і* бывае цьвярдым у беларускај мове літаратурнај. Прыкладам: *сыстэма*, *Мэксыка*, *Бразылія*, *псыхіка*, *пропозыца*.

Але ў словах грэцкіх, перанятых пры пасярэдніцтве старабаўгарскае мовы, *с* перад *і* мяккое (Васіль, Максім, апошняе лацінскае пераз грэцкую). Розьніца гэтая хіба ня з прычыны бліжшае старабаўгарскае вымовы, але з прычынаў графічных: як пісалі сіла, так пісалі ј Васіль і дзеля таго, ня чуючы наагул ані баўгарскае ані грэцкае жывое вымовы, Беларусы јіх аднолькава мякка вымаўлялі.

Цьвярдыя *з*, *с* перад *і* ў чужых словах мае беларуская мова супольна з польскај моваю, бо ў мякчыні сугукаў мова беларуская, польская, горналужыцка-сэрбская ј дольналужыцка-сэрбская најбліжшыя паміж сабою (прыкладам маюць *дзеканьне* ј *цеканьне*).

Калі паўмяккія *з*, *с* чужых словаў робяцца ў беларускај мове цьвярдымі, дык і пагатове *з*, *с* будуць цьвярдымі перад *е* ў чужых словах, бо яны ў гэт'кім палажэньню і ў чужых мовах цьвярдыя. Прыкладам: *Язэп*, *г(g)азэта*, *мізарак* (з лац. miser, ужываецца ў прыказцы „Багаты дзівіцца, чым мізарак жывіцца, а бедны сьмяецца, дзе ў багатага дзяецца“), сакрэт і јінш.

Чужое *l* ё паўмяккое. У мове беларускај перад *і*, *е* маем заўсёды *л* мяккое (лік, лепшы), дык няма дзіва, што перад *і*, *е* ёсьць *л*(*l*) мяккім і ў словах, узядзеных у нашую мову з моваў чужых (літара, летарг(*g*). У словах чужых беларускае мовы, пазычаных у старыну, маем траха (блізу) заўсёды перад *а*, *о* мяккое *л* (лямпа, пляц, клямка, пляма, лёзунг(*g*), шкарлятына). Мякчыні чужога *л*(*l*) у беларускај мове памагае тое, што і ў свајіх словах нашае мовы побач із *л* цьвярдым перад *а*, *о* (лава, ложак) ё ј *ль* мяккое (ляпа, доля, калёсы=ka/osy). Але ё некалькі даўно перанятых чужых словаў, дзе перад *а* маем *л* ацьвярдзелае (лацінскі). Сталася гэта пэўне з прычынаў графічных: лац. latina перапісалі кірыліцаю літара ў літару „латіна“ды прывыклі чытаць„лаціна“, „лацінскі“.

У расејскај мове сустракаем шмат большую неконсэквэнцу хіба з тых-жа графічных прычынаў. Гэтак нямецкае land у словах ведамых најбалеј з друку перадаецца пераз—ланд (Голландія, Ирландія, Шотландія), але ў тых, што маглі быць беспасярэдне чутыя, а ня толькі чытаныя, тое самое land перадаецца пераз — лянд (Финнляндія, Эстляндія, Курляндія).

На канцы слова ў беларускај мове бывае ў јімёнаў

мускіх звычајна *л* цьвярдое (стол, вол, кол), а ў жаноцкіх *ль* мяккое (столь, соль, моль), дык і ў пазычаных чужых словах мускога роду сярэдняе *л* канцавое прыхінулася да беларускага *л* цьвярдога (капітал, артыкул, матар'ял, пратакол, трыбунал), а ў жаноцкіх да *ль* мяккога (ноль).

Тое, што гісторычна адбілася на словах даўно перанятых, павінна быць тарнавана ј да словаў нова перајманых, г. зн. перад *і, е, а, о, у* трэба пісаць *ль* мяккое (Ірляндыя, монолёг), а на канцы *л* цьвярдое пры мускім родзе і *ль* мяккое пры родзе жаноцкім.

Гук *g* чужых словаў. Замест гуку *g* ё ў беларускај мове гук *г=h* (галава). Гук *g* астаўся адно ў некалькіх беларускіх словах, як *ga, ga, ga* (крык гусеј) і ў карані слова, просьле *з* — *mazgi, rozga, razgaty, brazgać, blavuzgać**). Але ў чужых словах *g*, здаецца, заўсёды астаецца (ganak, gaza), прынамся не паказана дагэтуль такіх прыпадкаў, дзе-б яно перајшло ў *h*. Цікава, што замест *g* словаў грэцкіх, што перајшлі ў мову беларускую пры пасярэдніцтве мовы старабаўгарскае, маем *h*. Гэтак із старацаркоўна-славянскага (старабаўгарскага) Агаѳья маем Гапа, Гапка (*=Hapa, Hapka*), калі тымчасам тое самое грэцкае слова, але перајшло да нас пасярэдніцтвам мовы лацінскае, мае *g—Agata*. *h* ў такіх прыпадках бяссумлеву маем із прычынаў графічных. У баўгарскај мове ё толькі гук *g*, каторы абазначаецца літарај кірылічнај *г*. У беларускај мове наадварот: няма *g*, а ёсьць *h*. Дык калі старацаркоўна-славянская пісьменнасьць была ў XI-ст. перанесена з Баўгарыјі ў Беларусь, дык нашыя прэдкі вымаўлялі *г* як *h* ня толькі ў свајіх словах, але таксама ў словах баўгарскіх і грэцкіх, бо розьніцы на пісьме ня бачылі, а жывое мовы ані баўгарскае, ані грэцкае наагул ня чулі. Тут, значыцца, яшчэ раз сустракаемся з уплывам графікі на вымову.

*т ці ф?* У грэцкај мове было асьпіраванае *th*, абазначанае літарај *ѳ*. Пасьлеј грэцкае асьпіраванае *th* перајшло ў *ф*, хоць абазначэньне яго асталося старое. Калі менаваны гук у Грэкаў быў яшчэ сьпірантам, Рымляне перајмалі ўжо тады грэцкія словы і гэны гук абазначалі пры памачы *th*. Ад Рымлян грэцкія тэрміны разыјшліся па ўсім сьвеце з вымоваю грэцкага *ѳ* як *т*. І ў Беларусаў грэцкае *ѳ* прынята перадаваць пры помачы *т* (тэатр, арытмэтыка), бо 1) гэтак яно вымаўлялася ў старую

*) З прычыны таго што ў друкарні няма літары для *г=g*, прыклады прыведзеныя лацініцај.

пару самае грэцкае мовы, 2) гэтак вымаўляецца ў мове лацінскаj, пераз каторую пашырылася ўсюды і ў нас, 3) у беларускаj мове ё гук *т*, але няма гуку *ф*.

Славяне пераjмалі грэцкія словы (блізу вылучна хрысьцянскія jімёны) тады, калі грэцкае *θ* вымаўлялася як *ф*. Дык у беларускіх праваслаўных jімёнах зьявіўся *ф*, каторы пераjшоў у *п* (*Пілiп*, *Панас*), *хв* (*Хведар*, *Хвядос*), *х* (*Хама*). Гэт'кая хворма падобных jімёнаў правільна ўжываецца ў беларускаj мове побач із хвормамі, у каторых адбілася пасярэдніцтва лацінскае (*Тамаш*, *Тодар*).

Адцеміць яшчэ трэба, што ў беларускаj мове назовы грэцкіх мясцовасьцеў (месты, гарады, астравы і г. д.), існуючых цяпер, ужываюцца паводле jіх грэцкае цяперашняе вымовы, значыцца грэцкае *θ* перадаецца пераз *ф* (*Афіны*).

Гук *ф*. Гук *ф* у беларускаj мове сустракаецца ў чужых словах. Прыкл.: фізыка, філёзоф. Калі слова з гукам *ф* робіцца ў беларускаj мове народным, дык *ф* замяняецца або гукамі *хв* (хварба, хвабрыка, хваля, хворма) або *х* (хунт, кахля, Цімох*), Хода, хурман, хурманка) або *п* (Язэп, Пранук, Сапрон, Агапа Слуцкі п., Сержпутоўскі II, 98, пляшка).

Чужыя падвоjныя сугукі. Падвоjныя сугукі чужога слова перадаюцца пераз адну літару. Пішацца: тэлеграма, Фінляндыя, каса, кляса, маса, а не — тэлеграмма, Фінняндыя, касса, клясса, масса і г. д.

Толькі ў некаторых чужых словах заховуюцца на пісьме падвоjныя сугукі, але тады мы jіх і вымаўляем як падвоjныя. Прыкл.: ванна, манна.

**Др. Я. Станкевіч.**

(Далеj будзе).

---

*) *ф* з *θ* аднолькава мяняецца, як *ф* старое.

# Распадабненьне шыпячых у беларускај мове.

Прсл. група tj у мове беларускај, славенскај, украјінскај і расејскај перајшла ў č (*ч*). Прыкладам у беларускај мове маем: хачу, плачу, шапчу і пад. з прсл. chotjǫ і г. д. У мове польскај, чэскај, горна-лужыцкасэрбскај і дольна-лужыцкасэрбскај прсл. tj перајшло ў *c*(*ц*): пол. chcę, ч. chci і пад. У баўгарскај мове прсл. tj перајшло ў št: choštǫ, і пад. У мове сэрбахарвацкај tj перајшло ў *ć*. Пераходы гэтыя адбыліся яшчэ ў тую пару, калі праславянская мова жыла яшчэ суцэльным жыцьцём, але ўжо дзялілася на дыялекты, зн. зьмены насталі дыялектычна ў мове праславянскај.

Тыпова беларускія прозьвішчы на—*іч* (Смоліч, Савіч) і—ов-іч,—ев-іч (Вајніловіч, Пяцюкевіч) маюць сваё канцавое—*ч* з—*чъ* з прсл. tj*ь*, каторае з ранејшага — *tjos (—*tjos перајшло ў—*tjь, гэтае ў—*чь*, а па заніку *ь* у *ч*). З множнага ліку гэт‘кіх прозьвішчаў патварылася мноства географічных назоваў у Беларусі—сёлаў (весеў), местачкаў і местаў, як: Бара́навічы, Радашкавічы, Алёхнавічы, Асіпавічы, Клімавічы, Пятровічы і јіншыя.

Але паміж гэт‘кімі прозьвішчамі і географічнымі назовамі ё ј таковыя, у каторых замест спадзяванага-*іч* з—itjь і-*ічы* з itji маем—*іц*,—*іцы*. Вось яны: Акінчыц, юрысконсульт Беларускае Сялянска-Работніцкае Грумады ў Вільні; Дружчыц, проф. Менскага ў-тэту, паходзе з Бабрујску, јіншы Дружчыц жыве ў в. Блудзень, Пружанскага пав., „Наша Справа“ № 3; Кашыц, прозьвішча аднаго жыхара ў Вільні; Корчыц, селянін із Чэмерскае вол., Слонімскага пав.; Мамчыц, жыхар м. Вільні, јіншы Мамчыц паходзе із Случчыны; Пецельчыц, жыхар м. Вільні; Рушчыц, проф. Віленскага ў-тэту, паходзе з Ашмянскага пав.; Саўчыц, з Пружанскага пав., „Сялянская Ніва“ № 38; Станчыц, чытар „Bieł. Krynicy“ (з адказу газэты ў „паштовај скрынцы“ ў № 7 з 1927 г.).

Географічныя назовы: Акінчыцы, у Меншчыне, „Выпісы з Беларускае Літаратуры XIX і XX“ У. Дзяржынскага. Менск. 1926 г., бал. 235; м. Алекшыцы, Горадзенскага пав., „Народная Справа“, № 12 з 1926 г.; в. Бранчыцы, ля Слуцка; Вільчыцы, Чаўскага пав., з карты Е. Карскага; Вільчыцы, Горадзенскага пав., „Наша Справа“ № 8 з 1926 г., в. Галенчыцы, Гічыцкае вол., Косаўскага пав., „Народная Справа“, № 37; в. Га-

лоўчыцы, Чэрыкаўскага пав., „Зьвязда“ з 4. II. 1930 г.; в. Гаўрыльчыцы, Слуцкага пав., Сержпутоўскі „Сказки и Разсказы Бѣлор. - Полѣшуковъ“. 1911, бал. 127; Гічыцы, Борка-Гічыцкае вол., Косаўскага пав.; в. Губчыцы, Падароскае вол., Ваўкавыскага пав., „Нар. Справа“, № 27; м. Докшыцы, Дзісенскага пав.; в. Дунаjчыцы, Нясьвіскага пав.; Дзераўлянчыцы, двор каля Слоніма; в. Едчыцы, Нясьвіскага пав.; в. Качыцы, Карэліцкае вол., Наваградзкага пав., „Наша Справа“ № 1; в. Какошчыцы, Чэмерскае вол., Слонімскага пав., „Нар. Справа“, № 36; в. Кашыцы, Пастаўскага п.; Кушыцы, Пастаўскага п., „Наша Праўда“ № 14; в. Кушчыцы, Нясьвіскага п., ля Клецка; в. Лельчыцы, на Палесьсі, на паўдня ад Прыпяці, „Савецкая Беларусь“ з 17. XI. 1926 г.; в. Лішчыцы, Горадзенскага пав., „Белар. Дзень“ № 8; в. Любішчыцы, Косаўскага пав., „Наша Справа“ № 8; в. Лучыцы, Слуцкага пав., Сержпутоўскі I—1, бал. 185; в. Лушчыцы, Берасьцеjскага п.; Малюшыцы, Раjчанскае вол., Наваградзкага п.; хв. Манішчыцы, Беjніцкае вол., Маладз. п.; в. Мастышыцы, Наваградзкага пав.; в. Машчыцы, ля Слуцка; м. Мілеjчыцы, Бельска-Падляскага пав.; в. Паленічыцы, Баранавіцкага пав., „Белар. Слова“ № 8 з 1927 г.; в. Плешчыцы, Лемашэўскае вол., Пінскага пав., „Наш Голас“, № 7 з 1927 г.; в. Пухаўчыцы, „Наша Справа“, № 3; в. Сашыцы, Селецкае вол., Пружанскага пав.; в. Трошчыцы, Рагачэўскага пав.; м. Хаценчыцы, Вялеjскага п.; в. Чарэмшыцы, Пастаўскага п.; в. Якшыцы, Нясьвіскага пав.; в. Ялажыцы, Сьвянцянскага п., „Сялян. Ніва“ № 3 з 1926 г.

Падобных прыкладаў можна было-б прывесьці яшчэ шмат.

Калі вышпрыведзеныя прыклады прыраўнуем да прозьвішчаў з канчаткамі на *—іч, ов-іч, ев-іч* (Мамоніч, Савініч, Амільяновіч, Зубовіч, Луцкевіч, Мацулевіч) ды географічных назоваў на *—ічы* (Воjневічы, Янавічы, Яршэвічы, Косьценевічы, Дунілавічы), значыцца таковымі, у каторых на месцу прсл. tj маем спадзяванае *ч*, дык, апрача канчаткавых *ц—ч*, розьніца паміж імі будзе яшчэ ў перадканчаткавым складзе. Паjменна: усі прозьвішчы j назовы з *ц* ў канчатку маюць у перадапошнім складзе шыпячыя *ч, ш, ж* (Акін*ч*ыц, Док*ш*ыцы, Яла*ж*ыцы), а тыя, што маюць у канчатку *ч*, сугуку шыпячага ў перадканчаткавым складзе ня маюць. З прасл., прыкладам Матъčitjь (з матък-а паўстала матъkitjь, а з гэтага матъčitjь) паўстала ў беларускаj мове мамчычь, а па заніку на канцы *ь* мамчыч. Гэтак і ў іншых прыкладах. Але тады два побач стаячыя склады мелі шыпячыя сугукі. Дык настала распа-

дабненьне, замяняючы апошняе *ч* на *ц*. Што запраўды ў вышменаваных і да іх падобных прозьвішчах і географічных назовах *ц* на месцу прсл. tj паўстала распадабненьням шыпячых у двох побач стоючых складох, бачым із таго, што прозьвішчы і географ. назовы, нямаючыя ў перадапошнім складзе шыпячага сугуку, ня маюць у канчатку—*ц*, —*цы* на месцу прсл. tj; ня ведаем ані воднага прозьвішча j назову ў Беларусі, у каторым-бы было *ц* на месцу прсл. tj, калі ў передапошнім складзе няма шыпячага сугуку.

Разгледжанае распадабненьне маем ня толькі ў прозьвішчах і ўтвораных ад іх географічных назовах, але j у іншых падобных словах, калі ў перадапошнім складзе ё шыпячы сугук. Прыкладам маем „п а н і ч“, але „б а я р ч ы ц“ (п‘еса „Бутрым Няміра“ Пр. Алёхнавіча. Вільня. 1918 г., бал. 3 і іінш.).

Процэс менаванага распадабненьня адбываўся бяссумлеву памалу і яшчэ дагэтуль зусім ня скончыўся. Рэдка, праўда, але яшчэ j цяперака можна пачуць назоў на —*чы* із шыпячым у перадапошнім складзе. Гэтак я чуў, як у Валожынскім п. называюць адну вёску Г а н ч ы ч ы, а ў пав. Маладзечанскім ё вёска К у р о м ш ы ч ы і ў Сержпутоўскага „Сказки и разсказы...“ бал. 90 знаходзім „Даніла Канцавејка з П і р а ч ы ч“.

Процэс дысыміляцы (распадабненьня) хіба пачаўся з прозьвішчаў, бо ў іх шыпячыя сугукі навет апынуліся ў вадным складзе (Саў-*чыц* з Саў—*чыч*), а потым пашырыўся j на географічныя назовы.

Просьле разгледжанага процэсу распадабненьня будзе такжа ясна, што j у словах—з ы ч у, з ы ч ы ц ь, п а з ы ч ы ц ь, з ы ч л і в ы, з ы ч л і в а с ь ц ь *з* ўзьнікла дарогај распадабненьня (прыр. пол. życzę, życzliwy). У вапошніх прыкладах распадобнілася *ж*, а ня *ч*, бо гэтае мела апору ў шыпячых сугуках 1-ае ас. адз. л. (пла*ч*у, шап*ч*у, тап*ч*у, крычу, нашу, ва*дж*у і да г. п.).

**Др. Я. Станкевіч.**

---

# Крытыкі ј рэфэраты.

*Б. Тарашкевіч*: Беларуская граматыка для школ. Выданьне пятае перарobленае і пашыранае. Вільня. 1929 г., бал. 132+IV.

У 1918 г. у прадмове да першага выданьня граматыкі аўтар зазначыў „Маю надзею, што ў будучыне лепшы час пазволіць мне выпусьціць паўнейшую і больш навуковую (разьбілі мы—Рэд. „Р. М.“) граматыку беларускае мовы“.

Выражэньне „больш навуковую“ беларуская грумадзкасьць зразумела як абяцаньне аўтарава навукова выясьніць і давесьці тыя асаблівасьці, каторыя ён практычна падаваў у сваёј „граматыццы для школ“ (ня вышшых).

Але час ішоў, зроблены былі ажно чатыры стэрэотыпныя выданьні граматыкі ў Вільні і, здаецца, адно выданьне ў Менску, а спадзевы не апраўдаваліся. Напасьледак, калі мінула роўна 10 год, як вышла ў сьвет „Беларуская граматыка для школ“, аўтар здаў у друк ня „больш навуковую“ рэдакцу свае граматыкі, але толькі выданьне „перарobленае і пашыранае“. Гэтую граматыку маем цяперака перад сабој.

У прадмове да гэтага выданьня аўтар зазначае, што „практыка і крытыка паказалі на некаторыя пахібы, (першае рэдакцы ягонае граматыкі—Рэд.), а нават, хоць толькі часткова і папрвілі іх“ і што „Рэформа правапісу, калі мае быць праведзена, мусіць быць праведзена ў цэласьці ды ў сувязі з рэформај*) пісьма і пераглядам граматычных формаў (морфолёгія)“.

„Аўтар „Бел. грам. для школ“ сам цяпер бачыць дужа выразна цэлую чараду яшчэ спрэчных пытаньняў.., але не бярэцца праводзіць якія-колечы паважнейшыя зьмены такім індывідуальна-партызанскім спосабам, накідаючы свој проект праз школьны падручнік“.

У наш час утраты аўторытэтаў так прыемна бачыць грумадзка дысцыплінаванага чалавека... Праўда, што „накідаць свој проект праз школьны падручнік“ ня добра, калі ў працяцу 10-ёх год была магчымасьць падаць адумысловы проект навукова выкладзены.

Але што датыча партызанства, дык дазвольце не згадзіцца. Бо „партызанства“ ё мус, калі няма рэгулярнае „ар-

*) й замяняем усюды на ј—Рэд. „Р. М.“.

міјі". І Б. Тарашкевіч быў „партызанам" першы раз пушчаючы ў сьвет сваю „Бел. грам. для школ". І ніхто яго ня ганіў за гэнае партызанства; наадварот, былі ўдзячныя. Адылі ўжо не партызанам, але капрызным „дыктатарам" стаўся, калі ня выясьніўшы навукова першае рэдакцы свае граматыкі, зрабіў зьмены ў другој — так сама без навуковага выясьненьня і гэт'кім парадкам прымушаў ранеј верыць аднаму, а потым другому, напару, як пабачым, працілежнаму.

Заданьням гэтае рэцэнзі ё — разгледзіць зробленыя зьмены ў новај рэдакцы граматыкі Б. Тарашкевіча і хоць крышку зьвярнуць увагу на тыя пункты ў ёј, што зьмены патрабуюць, але јіх пакуль што не дачакаліся. Најменеј мяне будзе цікавіць пэдагогічны бок граматыкі.

## Этымолёгія.

Аўтар тут паўтарыў сказанае ў першај рэдакцы, нажаль із ранејшымі абмылкамі. Гэтак, як прыклад да суфіксу *—ок* пададзена расејскае слова „я з д о к" (пабеларуску будзе „я з д á к"). Непаказаны суфікс *—ак* (ста-як, смал-як, гніл-як, кругл-як, язд-ак). Непаказаны некаторыя вельмі важныя ј для практычнае граматыкі суфіксы јімёнаў жаноцкіх, як: *—ух(а)*, адпавядаючы мускому *—ун* (скак-ун—скак-ух-а, плакс-ун—плакс-ух-а, лапат-ун—лапат-ух-а, крыкс-ун—крыкс-ух-а, шапт-ун—шапт-ух-а, шчабят-ун—шчабят-ух-а, пяв-ун—пяв-ух-а, хараш-ун—хараш-ух-а),*—елк(а)*, адпавядаючы муск.*—ель* (вучыц-ель—вучыц-елк-а, прыяц-ель—прыяц-елк-а),*—ніц(а)*,. адпавядаючы муск.*—нік* (дагляд-нік—дагляд-ніц-а, кіраў-нік—кіраў-ніц-а).

У суфіксах прыкметных непаказаны суфікс *—юсеньк*, *—усеньк* (нав-юсеньк-і, дабр-усеньк-і).

Але најгарэј выјшла із суфіксамі дзеяслоўнымі. У першых выданьнех было: „Як баран-ава-ць, баран-у-ю, дужа часта здараецца расказаваць—расказую, перапісаваць—перапісую і г. д. заместа перапісаваю, расказаваю" (бал. 45, у вынасцы). Тут адно маем дзіўное „заместа", бо хвормы на *—ую* (расказую) старшыя за *—аваю* (расказаваю).

Адылі ў вапошнім выданьню граматыкі знаходзім: „Як баранаваць—барануую ўжываецца дужа часта расказываць—р а с к а з у ю, перапісываць—п е р а п і с у ю і г. д. заместа перапісываю" (бал. 68).

Няма ведама, ці тут недагляд аўтарскі, што вельмі адбіўся на кніжцы, ці сьвядомая замена; у кожным прыпадку абмыла вельмі няпрыемная — суфікс *-ыва-*, *-іва-* — чысты русыцызм або полёнізм. Каб раз назаўсюды выясьніць справу з гэтым суфіксам, я мушу балеј на јім задзержыцца.

Е. Карскі кажа: „Асновы на*—ова-|-ује,—ева-|-'ује* вельмі пашыраныя ў беларускім нарэччу і ўжываюцца ў большај колькасьці прыпадкаў, чымся ў літаратурнај мове расеј-

скаj. Гэтак калі мы маем — гатоваць — гатую *) Шэjн Б. П. № 559 Леп., куповаць—купуем Зап. І., 302, падзяковаць—падзякуjма Дзьм. П. і Ск. Вільн 192 Беласт, або старыя: крыжавалі 14 б Сб. XV в. Публ. б. № 391, укрыжаваці ib. 9в, вымураваны ib. 44б і г. д., дык гэтыя хвормы часткава роўныя старым, а часткава ўзьніклі паводле jіх; паводле старыны ё „мевалі" ў выражэньню: ваjну з рымляны мевалі 145 Сб. XVII в. Сын. б. № 790. Але ў беларускім нарэччу—старым і новым — гэтыя суфіксы служаць дзеля тварэньня асноваў, калі хочуць абазначыць дзеяньне мнагаразнае („многократное"), г. зн. тады, калі ў сучаснаj літаратурнаj мове (расеjскаj—Рэд.) звычаjна—ыва-'-іва. Гэтак мы маем прыкладам: абрэзоваюцца 88 б Сб. XV в. Публ. б. № 391, відована ib. 92 б, узьдзержаваець ib. 92, асьвечавала 48 б, павешавалі ib. 72 б, указаваціся ib. 30 б, указаваў ib. 49, не заказаваў ib. 39, прыказаваў ib. 31, 65, папісавалі ib. 83, неслыхаваны ib. 33 б, аплакевала ib. 15 б, аказаваць 97 б. Пс. XVI в., выслуховаў ib. 99, прысмотраваці ib. 118 б, прамешковаць ib. 60, выслуховаў 102 б Псалт. XVII в..... або із сучаснае мовы, звычаjна з аканьням, як гэта часткава можна было бачыць і ў прыкладах із старых твораў: выjіграваць Мат. Б. № № 5 Слуцк., 9 Бых., выгавараваць ib. 9 Бых., 15 Ігум., абдумаваць, абманаваць ib. 11 Наваал., прыдумаваць ib., 28 Себ., перапрашаваць ib. 11 Наваал., пастукаваць ib. 31 Вялеjск.; раськідаваць ib. 11 Наваал., 31 Вялеjск., расьпісаваць, разбаронаваць, расьцяробляваць, расхваляваць і г. д. ib. 31 Вялеjск., спораваць ib. 9 Быx., 15 Ігум., 28 Себ. і jінш. Усі гэтыя словы, як мы бачылі, у васнове цяперашняга часу могуць мець—*уjе*—, але так сама магчыма пад уплывам асновы неазначанага ладу—*аваjе*" —(Бѣлоруссы, II., 74-75).

Зацеміўшы „нельга аднак думаць, што суфіксы—*ыва*-/--*іва*—ўжэ зусім чыста няведамыя ў беларускаj мове", Е. Карскі прыводзе трохі прыкладаў на гэтыя суфіксы. Прось-ле гэтага ён зазначыў „Як н я ў д а ч н а суфікс—ыва—( -іва—) п р ы ш ч э п л ю е ц ц а (разьбілі мы—Рэд.) беларускаму нарэччу..." (ib. 76).

У Аль-Кітабе—гэтаj наjчыстшаj памятцы баларускае мовы 1-ае паловы XVI. ст.—маем вылучна хвормы на — — *ова*-/·*уjе*—, —*ева*-/-'*уjе*—.

У разгледжанаj нядаўна С. Некрашэвічам („Працы Клясы Філёлёгіі" т. I, бал. 105—6) кнізе Касьяна Ераміты хвормаў на —*ова*-/-*уе*— мноства, а на —*ыва*-/-*ывае*— толькі крышку, каторыя, як і ў jіншых мясцох, маглі ўзьнікнуць пад уплывам польскім zapisywać.

(Далеj будзе).

---

*) Апрача хвормы разгляданае азаблівасьці, усё jіншае перадаю паводле сучаснага правапісу.

*Ант. Полевой*: „О языке населения Новозыбковского уезда Гомельской губернии. Выданьне Інстытуту Беларускае Культуры. Менск. 1926, бал. 47 in 8⁰.

З прадмовы даведуемся, што перад надрукаваньням аўтар гэтае працы прачытаў яе ў 1924 г. на вучыцельскіх курсах у Навазыбкаве, а ў 1925 г. ў Маскоўскай Дыялектолёгічнај Комісі.

„Если бы вы задали — кажа аўтар (бал. 3) — крестьянину Новозыбковского уезда... примерно, такой вопрос: „Кто вы такие? К какой нации принадлежите?“ — то услышали бы такой ответ: „Хто мы?! Мы руськія“. Если вы дальше спросите: „Какие „руськия“? — великорусы, что ли?“, то опять услышите ответ: „Да не, якия мы там великарусы!? Не, мы ня маскалі!“. „Да кто же вы тогда, украінцы?“ „Не, и ня украінцы!“ „Да кто же наконец: не маскали, не украинцы, а кто же?“

„И вот... скажут вам: „Мы — Литва, литвины“.

Гэтак у беларускај Чарнігаўшчыне, як і ў некаторых јіншых мясцох, захаваўся даўнејшы назоў нашага народу— Літва, Ліцьвіны. Назоў гэты пачаў пераважаць ад паловы 14 в. (дагэнуль пераважаў назоў старшы — Крывічы) і пазьнеј ажно да XVIII ст. ўлучна ў значэньню нацыянальным і палітычным ужываўся блізу вылучна.

„Дзеля таго што — кажа далеј аўтар (бал. 5) — дагэтуль існуе пагляд, што навазыбкаўскія „ліцьвіны“ гамоняць расејскај моваю, дык я ј буду ў дальшым выкладзе ўвесь час раўнаваць мясцовую навазыбкаўскую гаворку з расејскај літаратурнај моваю“.

Зацемлю, што гэткі „пагляд“ існаваў запраўды толькі паміж Расејцамі і то ня ўсімі, а Беларусы заўсёды ведалі, што ў пяцёх з гакам паўночных паветах Чарнігаўшчыны гамоняць пабеларуску.

Добра аўтар адцеміў, што —

„навазыбкаўская гаворка год 50 назад крыху розьнілася ад сучаснага ејнага стану; у ёј было тады крыху балеј словаў і хвормаў, няведамых расејскај мове. Цяперака: а) школа, б) служба ўварміјі, в) заработкі на чужыні ўносяць у мясцовую гаворку некаторыя расејскія словы і прычыняюцца да яе „русыфікацы“ (ibid.).

Просьле сыстэматычнага разгляду, нягледзячы на вышменаваную русыфікацу, аўтар прыјшоў да выводу, што

„можно смело сделать вывод, что язык жителей-крестьян Новозыбковского уезда является языком белорусскім“ (бал. 38).

У вынасцы аўтар дадае, што —

„Того же самаго мнения о принадлежности языка Новозыбковского уезда к языку белорусскому держится и Московская Диалектологическая Комиссия и, в частности, председатель ее, академик Ушаков, и проф. Растаргуев“ (ibid.).

Зьвярнуўшы ўвагу на прыведзеныя јім у сваёј працы трохі песьняў з Навазыбкаўскага пав., аўтар яшчэ раз падчыркуе: „Эти песьни еще более убеждают в том, что язык новозыбковских литвинов есть язык белорусский, а следовательно, и сами литвины — тоже белорусы” (ibid.).

Ня буду прыводзіць тутака ўсіх асаблівасьцеў граматычных беларускае мовы Навазыбкаўскага павету, як яны паказаны ў працы Ант. Палявога, бо дзеля гэтага трэ' было-б перадрукаваць усю беларускую граматыку. Адцемлю адно асаблівасьці недаволі дагэтуль выясьненыя ў беларускај філёлёгіі наагул або ў беларускај дыялектолёгіі. Зьвярну ўвагу такжа на асаблівасьці, што хоць і ясныя філёлёгам, але ў каторых беларуская інтэлігенца часта недаволі разьбіраецца.

## ГУКІ.

Аканьне ўва ўсім Навазыбкаўскім павеце вялікае недысыміляцыјнае. Прыклады: барада, голас, добр*ага*, малад*ога*, мал*ога*, сін*яга**), зямля, пятуха, возяра, вынясу, дайця, бачыця, крышыця. У заблішчыць нельга бачыць водхін ад аканьня, бо тутака *л* па заніку *ъ* (заблъшчіць) стала складовым, а потым зьмянілася ў *лі*.

У словах „*німа*“, „*ніхай*“ нельга бачыць полёнізмы падзеля јіхняга *і*, бо ў польскај мове ў гэтых словах няма *і*. Як у Навазыбкаўскім пав., так і ў шмат якіх јіншых мясцовасьцех Беларусі *і* ў менаваных словах залежыць ад ня так моцнага аканьня ў пярэчаньню *не*.

Дысыміляцыјнае аканьне ў Навазыбкаўскім пав. ё толькі ў вадным сяле (вёсцы)—Дуброўцы-Васілеўцы. Аўтар гэтак азначыў дысыміляцыјнае аканьне гэтага сяла: „ненацісьненыя гукі *а*, *я*, а такжа ј гукі *е*, *о*, што перајшлі з прычыны аканьня ў *а*, *я*, захоўуюцца, як *а*, *я* адно ў канцавым адкрытым (ня маючым на канцы сугуку) складзе, прыкладам: сен*а*, мест*а*, сонца, дайця, віця, а таксама і ў складзе, стоючым беспасярэдне перад націскам, калі пад націскам не стаяць гукі *а* ј *я*, а якія-колечы јіншыя (*у*, *ю*, *о*), прыкладам: *скажу*, *сяло*, *бяду* і да

*) Апошнія тры прыклады ўзяцены з бал. 22.

г. п.; в) а ў усіх јіншых прыпадках замест гукаў *а, о,* чуецца гук *ы,* а замест *'а, е,*—гук *і,* прыкладам: трыва, дывай, бырыда, волысьць, думыць, віла, йіравы, пітуха, веціp, восінь, возіра, сéлізінь, вынісу, паліц і г. д.".

Я думаю, што менаванае азначэньне будзе правільным і ў адносінах да ўсяго беларускага дысыміляцыјнага аканьня. Јіншая рэч, што трудна сказаць, ці *а, о, е* рэдукаваліся, потым перајшлі ў *а,* а з *а* распадабненьням — у *ы, і* ці яны з рэдукаваных беспасярэдне, распадабняючыся, перајшлі ў вадных прыпадках у *ы, і,* у другіх у *а;* хіба што апошняе.

З прыводжаных аўтарам у тэксьце прыкладаў відаць, што ў навазыбкаўскај гутарцы замест часткі *бы* ёсьць *ба.* Прыкладам: *біў-ба, клаў-ба* (бал. 11).

Аўтар адцемлюе, што „ў навазыбкаўскај гутарцы самагукі чуюцца даволі ясна навет і не пад націскам і заўсёды з точнасьцяј можна сказаць, што ў такім і такім месцу добра („определенно") чуваць такі ј такі гук" (бал. 6).

Нельга сказаць, што „Навазыбкаўская гутарка мае замену *о, е* гукамі *ы, і*" ў канчатках прыкметных јімёнаў, як—*злы, дурны* „і яшчэ ў некаторых дзеяслоўных хвормах" (бал. 9) як—*папіся, лі,* бо ў гэтых прыпадках *ы, і* маем на месцу *ъ, ь* (zъłъјь).

Маем *е* (а не ё) ў словах *зъмерз, елка* (9).

У Навазыбкаўскај гутарцы вельмі пашыраны „прыстаўны" *і* (запраўды ён најчасьцеј разьвіўся із складовага *м, л, р*): Імглін, ірзаць, імне, імной, ільну, ігруша, імху. Напару замест *і* бывае *а*: альляны, аржаны, аўторак (9).

*і* прыстаўное маем у слове *ішоў*; калі гэтае слова ўжываецца з прыстаўкаю, дык у навазыбкаўскај гутарцы *ј* перад *ш* заўсёды ё. Прыкладам: прыйшоў (7), пайшла (10), падыйшла (10), знайшоў (11, 18), пайшоў, найшоў, пайшла, найшла (усі 4 на 40 бал.), знайшоў (41).

„Навазыбкаўская гутарка мае яшчэ злучэньне зь *й,* а пајменна: „*йі*", каторае ў расејскај мове не сустракаецца. Гэтае злучэньне вымаўляецца злучна, таксама, як злучэньні *я, ю.* Мы знаходзім яго ў таковых словах, як: йіх, йім, твайіх, майіх і шмат јіншых" (6). Дапоўню прыкладамі зь јіншых мясцоў працы Ант. Палявога чыйім, чыйіх (21), лайіць (32), райіць (34).

У Навазыбкаўскај гутарцы *і* пераходзе ў *ј* (й) нескладовае 1) будучы злучом—*я й* ты, 2) стоячы на пачатку слова па самагуку слова папярэдняга — *яны йдуць, за Йвана* (10) да *йзноў* (26).

Што да вымаўляньня *р,* дык навазыбкаўская гутарка дзеліцца на дзьве часьці (13): у ваднэј часьці ё толькі *р* цьвярдое, а ў другој цьвярдое *р* ё заўсёды перад старымі *ы, і, ъ, ѣ, е* (Арына, бяры, рэж, крык), але напару бывае

мяккое *р* перад *а* ў такіх прыпадках, у якіх у мове праславянскај ды цяпер у јіншаславянскіх мовах ё *р* мяккое. Гэтак у часьці Навазыбкаўскага павету скажуць: ряма (рама), наря (нара), я ряд, старяцца і јінш. Гэта паказуе, што мяккое *р* узьнікла ў часьці Навазыбкаўскага пав. не арганічна, але пад уплывам мовы расејскае: Беларусы стараліся казаць перад *а* мяккое *р* там, дзе яно ё ў мове расејскај, але дзеля таго, што ў сябе мелі ўсюды *р* цьвярдое, дык і сталі яго ўсюды перад *а* вымаўляць мякка, значыцца ј там, дзе ў праславянскај мове *р* было цьвярдое.

У навазыбкаўскај гутарцы *l* (ль) перад *ц* ў ведамых прыпадках ацьвярдзела. Напрыклад: па*л*цы (бол. 14), па палцу (19), палцамі (20).

Ё вымова *мазкі*, ро*зкі*, дзе *зк* ўзьнікла з зг = zg (14).

Як і ўва ўсёј беларускај мове, у Навазыбкаўскім павеце маем *мяккі*, а ня *мягкі*, але тутака два—кк—спачатныя (з—*кък*—), а не паўсталі з—*гк*—, як думае аўтар (ibid.).

У Навазыбкаўскім пав. „вялізарная большасьць вясковага насяленьня ня знае ў сваёј вымове гуку *ф* і замяняе яго гукамі: *х*, *хв*, *п*, прыкладам: Хведар, Хвекла, Хама, хунт, Хранцуз, Пекла, Гапа і г. д. (15), Цімох (11), ахвіцэр (45), хвортка (35). Але так званая „вясковая інтэлігенца“, каторая сстараецца гаманіць „памеску“, навет замест спрадвечнага *хв* кажа *ф*: фост (хвост), футар, фаліцца (14). Значыцца тут у меншај меры маем з *ф*—*хв* тое, што ј з вышменаваным *р*: хочучы вымаўляць пачужому *ф* замест агульнаўжыванага *хв* на месцу *ф*, вымаўляюць апошняе ј тамака, дзе ё старое *хв*.

Падваеньне сугукаў таксама ё агульным зьявішчам у навазыбкаўскај гутарцы, прыкладам: Ільля, ральля, кольля, пытаньня, сьвіньня, касьсё, валосься, калосься, каўбушша (15).

Асыміляца (ўпадабненьне) паводле артыкуляцы: смяе*сься*, дзівісься (16).

*цц* пераходзіць у—*јц*—: малайцом, малайцы (16), тут —*дзц*—перајшло ў *цц* а гэта ў—*йц*—.

## Этымолёгія (славатворства) ј морфолёгія (скланеньні ј спражэньні).

Як і ў јіншых мясцох беларускае мовы, словы—*ценъ*, *жалъ* мускога роду, а *гусъ* жаноцкага роду (17).

Назовы маладое жывёлы ё ніякага роду на—*'а*: парася, цяля (18) і хіба таксама—гус*яня*, кур*аня* (із суфіксам—*ен*). Канчатак 'а (з ę, каторае з ent) бывае тады, калі пол не абазначаны. А калі пол мускі, тады да асновы (гусен—) дадаецца суфікс—енак (з - енък—): бусьлянёнак, гусянёнак, кацянёнак, казьлянёнак і јінш. (у мн. ліку—казь-

ляняты, гусяняты, бусьляняты, кацяняты) (18). Самая хворма—казьлянёнак і јінш.—чыста беларуская і адпавядае беларускім прозьвішчам на *—енак*, *—онак*, як: Гальяшонак (сын Гальяшоў), Карусёнак (сын Карусёў), Ярцеменак (сын Ярцёмаў), але ладнае ўжываньне хвормаў у мускім родзе (бусьлянёнак і пад.) замест роду ніякага (бусьляня) паказавала-б на расејскі ўплыў.

Ласкавае ад *Іван* ё *Іванька* — Пайшоў Іванька да й знайшоў (41).

Хвормы клічнага склону: раю, коню, татку, брацíку, сыночку і јінш. (18).

Родны склон јімёнаў мускіх матар'яльных мае канчатак—*у*: „аўсу, дзёгцю і шмат јінш" (18).

У месным склоне ё такжа—*у* ў јімёнаў мускіх зь мяккімі канчаткамі і па—*к*: „на нажу, у Браньську, па палцу" (19).

Назоўн. скл. мн. ліку мае канчатак—*ы* навет у јімёнаў ніякага роду: сёлы, вароты (19).

Із зајмёнаў адцемлю: наськí, васькí, тэј (а ня тој ці тыј).

*Увесь* усіх радоў мае ў наз. скл. мн. лік канчатак—і: усі (21).

*Мая*, *твая*, свая, чыя, уся, адна ў родным скл. адз. л. маюць—мае, твае, свае, чыé, усіе, адныé.

Лічбы пяць, шэсьць скланяюцца гэтак: пяцёх, шасьцёх, (родны скл.), пяцём, шасьцём, пяцёх, шасьцёх, пяцёмі, шасьцёмі, пяцёх, шасьцёх.

У вінавальным скл. прыкметаў „у жаноцкім родзе ё розьніцы, уласьцівыя беларускаму языку, а пајменна: калі націск на канчатку, дык ён аднолькавы з расејскім—*ую*, *юю*: крывую, сьляпую; а калі націск не на канчатку, дык ён замяняецца канчаткам—*аю*,—*яю*, прыкладам: я бачу зялёнаю, краснаю, сіняю і г. д." (23).

„Творны скл. мн. л. пад націскам мае канчатак—*ымі*, —імі—крывымі, а бяз націску—амі, —ямі, прыкладам: чым?—голамі рукамі, сінямі, дробнамі, краснамі" (23).

Спражэньне. У дзеясловах мнагаразных (iterativa), маем суфіксы — ева —, —ова—: аткідаваць, дадзелаваць, выпрашаваць, падпяразаваць (33), наказаваў (44), прывязаваў (44); у пяперашнім часе таковыя дзеясловы канчаюцца на—*ую*, *юю*: выпрашую (24).

У трэјцяј асобе адз. л. канчатак=ць „вельмі часта адпадае", скажуць ня толькі—кладзе, вядзе, нясе, бярэ, вязе, але калі націск не на канчатку, дык і—прося, нося, кося, возя, ходзя" (25).

Сустракаюцца хвормы даўнамінулага часу, як: „я быў падужаў, да йзноў захварэў" (26).

Дзеяслоў „есмь“, „быць“ мае ў цяперашнім часе ў трэjцяj асобе гэткія хвормы: *ё*, ёсьць, ёсьцякі, ёсьцяка (26).

„Ад пасыўнае хвормы дзеяслова ё дзеяпрыкметы (participia) толькі мінулага часу: колаты, вымыты“ (26).

Нязьменныя часьці мовы. „Прыjмя *к* ў навазыбкаўскаj гутарцы траха (блізу што) заўсюды мае перад сабою *і* ды мае выгляд *ік*, прыкладам: ік каму, ік ёй, ік яму, ік бацьку, ідзець ік вам і г. д.“.

„Тое самое ў некаторых прыпадках адносіцца і да *с*, прыкладам: іс сахой, із сабакамі і jінш.“ (27).

„Прыjмёны *с*, *з*, *із* вельмі часта паміж сабоj мяшаюцца і ставяцца адзін на месцу аднаго: ізняў, ізбрыў, із бабай, здача і jінш.“ (ibid.).

Аўтар даў у сваёj працы і слоўнічак (каля 650 словаў) беларускае мовы Навазыбкаўскага пав. Кіруючыся мотывамі, выказанымі на пачатку гэтага артыкулу, я прывяду гэтта некаторыя словы з гэнага слоўнічку. Вось яны:

аппянуць (хіба з-абпянуць — Рэд.)—„покрыть голову“
аберуч — абедзьвюма рукамі
аткутаць —„адкрываць“ (хіба адкрываць „захутанага“ ў вопратку — Рэд.)
асьмётак — стаптаны лапаць
абясьціцца — адгукнуцца, аказацца (з аб-вясьціцца--Рэд.)
адкаснуцца — адчапіцца
бабіць — прыjмаць дзяцё ад радзіхі
баччына — спадак па бацьку і бацькаўшчына-аjчына
бусел
бліскучы
бурбалка — пол. bańka, рас. пузырь на воде
бяёдаваць — псаваць
бліжаць — падходзіць бліжэj
брыжы — анталяжы, пол. koronki, рас. кружева
біндзюк — калёсы (мо' род калёсаў? Рэд.)
боляць — рабіцца болеj
бульба
быконка — ваконьніца
відзёлка — пол. widelec, рас. вилка
вотлыг — адлега, адліга
вал — „пряжа из хлопьев“ (з пачасься, зрэбніна?--Рэд.)
ваддзень — авадзень
вонкі — на двор
вышаць — рабіцца вышэj
гартаць (кнігу) – „листать“
гадзіна
гаманіць — гаварыць
гоман — „говор“
гукаць — клікаць, адгэтуль—гук
грэбаваць — „брезговать“
грамякнуць — выцяць, выпусьціць (хіба кінуць?) із грукатам
гадаваць — „растить, воспитывать“
гайіць — лячыць (рану)
гутарка
гамонка — гутарка
далоў — „на пол“ (правільнеj было-б перакласьці словамі „уніз, на зямлю“—Рэд.)
долі — „на палу“ (зн. унізе, на зямлі, каля Валожына кажуць „*доле*“, у каторым маем прыслоўе з таго-ж акасьцянелага меснага склону і „*долех*“ - з месн. скл. мн. л. У гэтым-жа значэньню за-

пісаў я ў Браслаўскім пав. *„далавах“*—Рэд.)
двойчы — два разы
даўжыня
дуля — ігруша, хвіга
жэўжык — шустры хлопчык
жах — „ужас, страх“
жачка — жняя і машына жаць
жамкі — пернікі, рас. пряники
завод — „журавль у калодезя“
загадаць — „приказать“
зáгваздка — „чека“
зеначка — зрэнка
зык — авадзень (ці ня ўцекі ад аваднёў?—Рэд.)
змалячку — змалку
Замашкі—„конопля пустоцвет (без семян)“ (зн. пласконьня—Рэд.)
засьціць—„темнить“
здор—сала (нутраное)
затаўка — „приправа“ (салам пэўне - Рэд.)
забарэні — аборы ў лапцёх (прыраўнуј „забарсаць“ — Рэд.)
закавулак—„переулок“
дзыгаўка* — „волчок“ (11)
кайстра—„сумка“
кузік—гузік
курчына—шасток ля печы на адзежу
каліўца— 1) зьмяншальнае ад „каліва“, 2) крышку
крэйда
кацелка—„подсолнух“ (названы так ад таго, што ён круглы як „кацелка“, што качаць. Слова гэтае, як назоў менаванае расьліны, трэба ўвесьці ў літаратурную мову, бо цяпер хістаемся паміж маскоўскім „подсолнечником“ і польскім „słonecznikiem“ — Рэд.)
кволы—„хилый“
крануць—„трогать с места“
краска* — „цветок“ (11)
каўзацца (хіба коўзацца—Рэд.) — „кататься по льду“, пол. ślizgać się
каток—кола
кійкі—кукуруза
кушаць — каштаваць, паспытацца
капаніца—„мотыга“
караўка — брудная, закарэлая рызіна
крэгліна—„кегля“
ліпець - ледзь дзяржацца
лузкаць—„щелкать (семечки)“
Манюкі* — назоў сяла (20)
мост—падлога (ну і хіба „мост“ — Рэд.)
мéняць — рабіцца менеј, меншым
масьніца—„половіца“
мулка--„жестко“
набгом — пераз крај піць, нахінаючы
палізушка* — зьмян. ад *палізуха*, ласуха, любячая „палізаваць“ смачную яду. *Масьляная палізушка была* (42)
прылашчыць—„приласкать“
петаваць — біць (відаць біць якім апрычоным спосабам, ці ня біць нагамі, пятой, бо, ведама, ё і „біць“ — Рэд.)
падпяразаваць — „подпоясывать“
пранік — валек (што пярыць палатно, хусьця—Рэд.)
пуня—„сарай“
прыпяўні—прыпеўкі
подруб — „фундамент“ (слова агульна-беларускае, ё ј „падрубныя зьмеј“—Рэд.)
парушына „соринка“
птушка
поплаў — сенажаць, заліваная вадој у часе паводкі (у Віль-

ні адна вуліца завецца Поплавы – Рэд.)
плойма - шмат (мноства, слова чутае мною такжа ў Слонімскім пав.—Рэд.)
прынада—„прыманка“
рукацца—вітацца
рэлі—„качели“
рэлякі* — „качелі“ *На рэляках калыхалися* (44)
рэзвіны—рэзьгіны
разьюшаны—узлаваны
расхрыданы — з расьцягненај сарочкај на грудзёх (у јіншых мясцох кажуць „расхрыстаны—Рэд.)
рожа*, рожухна* — „роза“ *Ой ты, рожухна, ой ты, матухна* (43)
ройла—„беспорядок“
сьляпянёк—газьніца
сіляць — чэрпаць (гэтак-жа ў Магілеўшчыне,трэба адрозьняваць ад „сіляць”—лучаць у сіло, прыкладам: *птушка ўсілілася* Гародзькі Воложынскага п; *хто віно п'е, душу сваю сіляе*, Аль-Кітаб, зн. душу суне ў пятлю — Рэд.)
сігаць — „шагать“ (таксама ў Магілеўшчыне—Рэд.)
сігень — „шаг“ (і ў Магілеўшчыне, гл. у М. Гарэцкага—Рэд.)
салёнка—вароная бульба (тачнеј: скрабаная вароная бульба, бо толькі гэткую соляць —Рэд.)
скародзіць—баранаваць
сярон—гурба (?—Рэд.)
столь—„потолок“
сьветла (хіба—сьвятло, з нацiскам на канцы—Рэд.) — агонь (пад літарај *и* Ант. Палявој падае „цяпло“ ў значэньню „костёр“, што трэ' было-б перакласьці таксама пераз „агонь“: раскладзены агонь дзеля цяпліні завецца цяплом, а засьвячоны дзеля асьвятленьня — сьвятлом; „цяпло” ў прыведзеным значэньню і ў Магілеўшчыне вельмі пашырана—Рэд.)
сустракаць
старац—жабрак
скабка—„заноза“
скакаць—„танцевать“
скінуцца—„превратиться“
старчыха—жабрачка
скрылёк — ценкая лустачка („тонкий ломтик”)
таўчонка—„картофельное пюре́“
тайка—зварот да жанчыны (як у јіншых мясцох „ваша“, „вашэця“ ды пол. „васпані“)
турок—„тупик” (слова вельмі патрэбнае ў літаратурнај мове, бо дагэтуль нярэдка ўжываецца маскалізм „тупик“—Рэд.)
услон
узуваць—абуваць
ушчух—сьціх (дождж)
улазіны — уходзіны (у новую хату)
цыркун—„сверчек“
цыркаць—„стрекотать“ (у јіншых мясцох „цыркаць“ значыць памалу ліць — Рэд.)
чапаць—„трогать“
частаваць
шапавал — „шерстобит”
шыгальля—„хвойные иглы“

У слоўнічку ўсюды *р* пастаўлена цьвярдое.

* Словы із зоркај выбраныя з прыкладаў, прыводжаных аўтарам у тэксьце або зь песьняў, а лічбы паказуюць балонкі.

Напасьледак, аўтар прыводзіць 24 народныя песьні з Навазыбкаўскага пав. За аўтарам і я прывяду тут адну песьню:

Пара, маці, жыта жаці—
Каласок схіліўся.
Пара, маці, дачку ‘ддаці—
Галасок зьмяніўся.

Галасочык на лясочык,
Ціха мова розна.
Ня гневайся мая мамка,
Што гуляю позна.

Ой я хаджу, я гуляю,
Добры розум маю.

Як відаць із разгледжаных асаблівасьцеў, мова Навазыбкаўскага пав. належыць да цэнтральнае беларускае гутаркі (як у паветах Вялејскім, Валожынскім, Барысаўскім і јіншых), абазначанае на карце Е. Карскага чырвоным колерам.

Просьле разгляду лішне хіба казаць, што праца Ант. Палявога ё об‘ектыўнај, сумленнај і карыснај.

*Др. П. Вајцюлевіч.*

---

## Да беларускае мовы Горадненскага пав. Чарнігаўшчыны.

Вышэј надрукавана рэцэнзя грунтоўнага разгляду беларускае мовы Навазыбкаўскага пав., зробленага Ант. Палявым. Беспасярэдне на паўднёвы заход ад гэтае мовы ляжыць беларускі простор Горадненскага пав. Чарнігаўшчыны. Навет Е. Карскі, што так часта звужае беларускі языковы простор, прызнае тут беларускую мову. Але вось Сьц. Смаль-Стоцкі (Украјінец) у стацьці „Поліські мішані говори і поліські дифтонги“ („Slavia“, VI—1. 1927 г. бал. 28) залічае гэты простор да мовы ўкраjінскае. У свајім артыкуле ён задзержујецца на мове с. Харобрычы, як хіба тыповај для дадзенае мясцовасьці ці мо‘ дзеля таго, што мова Харобрычаў разгледжана ўкраjінскім філёлёгам О. Курылаю *).

Разгледзім аргумэнты Сьц. Смаль-Стоцкага за ј проці беларушчыны гэтае мовы.

Ён прызнае беларускімі асаблівасьцьмі мовы Харобрычаў і сумежных палескіх гутаркаў гэт‘кія зьявы:

1) Характар націску чыста беларускі, бо ён грае далёка большую ј важнејшую ролю, чымся ў украјінскај мове. Ён характарызуецца тым, што эксьпіраторная ј тональная сіла ягоная сусярэджаная на самым пачатку націсьненага

---

*) О. Курило: Фонетичні та деякі морфологічні особливости говірки села Хоробричів.. на Чернігівщині. Кіеў. 1924 г.

складу і ё выразьліва спускля стая (падучая), так што склады па націску бываюць навет безгалосыя (бал. 28).

А тымчасам „з назіраньнеў над украјінскім націскам ведаем, што ў украјінскај мове наагул пануе сыстэма аднамернага націсканьня, г. зн. экспіраторная сіла ўкраінскага націску невялікая і дзеля таго балеј выступае ў јім дзејнік тональнасьці. Украјінскі націск ня моцна, але слаба сусярэджаны на свајім складзе, ён асобныя склады коордынуе, а не субордынуе. Склады ўкраінскіх словаў јідуць адны за аднымі ў лёгкім, мяккім хваляваньню (асабліва ў жывој народнај мове), яны ўсі ясныя, выразьлівыя, з чыста ј старанна артыкулёванымі самагукамі... Так ё і так было ў нас (Украјінцаў — Рэд.) здаўна“ (бал 33).

2) Як рэзультат беларускае сыстэмы націсканьня, у разгляданых гутарках горадненскіх ё дыфтонгі (двугукі) ў націсьненых складох, каторыя як добра прызнае аўтар — ё „зьяваю неўкраінскаю, а чужою (беларускаю — Рэд.), праціўнај дагэтулешнај агульна-ўкраінскај сыстэме гукавој і ўкраінскај сыстэме націсканьня“ (36).

3) З другога боку, як рэзультат беларускага характару націсканьня, ё некаторая рэдукца ненацісьненых самагукаў і

4) сыстэматычнае аканьне (недысыміляцыјнае). Прыкладам: стала́, пчала́, пшаніца, кажаш, станяш (бал. 29-30).

5) Перад *е* ёсьць сугукі мяккія.

6) *е* па мяккіх сугуках перад цьвярдымі складамі пераходзіць у *о* (сёмы, шосты, зялёны).

7) Так сама перад *і* ёсьць мяккія сугукі.

8) Сугук *с* (ц) цьвярды (бал. 30).

Ад сябе яшчэ дадам, што — як відаць із прыведзенае аўтарам невялічкае лічбы прыкладаў – прыкметы ј лічбы мускога роду ў назоўным скл. адзін. л. ня маюць на канцы *ј* (зялёны, сёмы, а не зялёныј, сёмыј).

Украјінскімі асаблівасьцьмі паводле аўтара маюць быць:

1) Гукі *і* ј *ы* зьліліся ў вадзін гук. Тут трэ' выясьніць адно непаразуменьне. Сьц. Смаль-Стоцкі ј О. Курыла думаюць, што ў беларускај мове захаваліся два розныя самагукі *і* ј *ы*, як гэта можна думаць паводле нашага правапісу. А тымчасам замест гэтых двух маем гук адзін, бо розьніца паміж јімі — як добра аўтар азначыў у вадносінах да разгляданых чарнігаўскіх гутаркаў — можа быць апраўдана балеј із становішча фонолёгічнага чымся фонэтычнага. Розьніца паміж даўнејшымі рознымі *і*, *ы* адбіваецца ў тым, што перад даўнејшым *ы* маем сугукі цьвярдыя, а перад даўнејшым *і* ў вадных прыпадках мяккія, а ў другіх цьвярдыя (ацьвярдзелыя *р*, *ж*, *ч*, *ш*, *ц*), значыцца так, як ё перад даўнејшым *е*, *ъ*, *ѣ*. Е. Карскі неаднойчы кажа, што

розьніца паміж *і* j *ы* ё толькі ў вымове папераджаючых jіх сугукаў. Што нямаш розьніцы ў вымове паміж *і* j *ы* відаць такжа з таго, што найлепшыя беларускія поэты рымуюць *і* з *ы* і ніхто jім з прычыны гэтага ня робе закіду. Запраўды, ніхто зь Беларусаў ня чуе розьніцы паміж *ы* ў гэткіх словах: *кары* (родн. скл. ад - *кара*), *веры*, *шэры* а *зары* (наз. скл. *зара*), у *вядры*, *бяры* ды ў *кажы*, *чашы* і пад. Можам сказаць, што ў беларускай мове *ы* перәйшло ў *і*, але цьвярдзіня сугукаў перад *ы* захавалася. Гэта j пацьвярджае Сьц. Смаль-Стоцкі, ці, праўдзівей, О. Курыла, з каторае першы прыводзе цытаты, уадносінах да мовы Харобрычаў. Гэтак мы даведуемся, што даўнейшае *і* па *ш*, *ж*, *ч*, *ц* ёсьць „высокі пярэдняга раду шырокі гук, што прыпамінае польскае *у* (*ы*) варшаўскае вымовы“ (бал. 31). Усе сугукі перад даўнейшым ы „у харобрыцкай вымове цьвярдыя“ (ibid). Гэт'кім парадкам маем тут дзела не з украінскай, але зь беларускай асаблівасьцяй, бо замест даўнейшых *і*, *ы* ё траха (блізу што) адзін самагук, але перад jім бываюць мяккія j цьвярдыя сугукі, а ня так, як у ўкраінскай мовы—сугукі аднолькавыя.

Із сказанага відаць яшчэ адна беларуская асаблівасьць харобрыцкае гутаркі—гэта ацьвярдзелыя *ж*, *ч*, *ш*.

2) „Другой“ украінскай асаблівасьцяй мае быць, што *е* j *ѣ* ня зьліліся ў вадзін гук. Але наагул нельга з пэўнасьцяй сказаць, каб у беларускай мове, на'т у мясцох вельмі далёкіх ад украінскае языковае граніцы, гэтыя гукі чыста зьліліся. А, з другога боку, хоць у харобрыцкай мове гэтыя гукі розьняцца, але на месцу *ѣ* няма *і*. Дык і гэтая асаблівасьць балей беларуская, як украінская.

3) „Трэцяй“ асаблівасьцяй украінскай ёсьць зьява, што сугукі не ўпадабняюцца, прыкладам звонкія перад глухімі ня трацяць свайго звонкага характару (но*ж*ка, а ня но*ш*ка). Гэтая зьява ўкраінская, супольная ў яе з моваю сэрба-харвацкаю. Але j ладная часьць беларускае мовы знае гэтую асаблівасьць; ёсьць вялізарныя мясцовасьці, аб каторых навет найгальлівейшыя Украінцы ня могуць сказаць, што там гэтая зьява паўстала пад украінскім уплывам. Дык гэтая дыялектолёгічная рыса беларуская магла навет незалежна ад украінскага ўплыву разьвіцца ў харобрыцкай і сумежных із ёю палескіх гутарках.

4) „Чацьвертай“ украінскай асаблівасьцяй мае быць спарадычны пераход закрытых *о*, *е* ў *у*. Ня кажучы ўжо аб яго спарадычнасьці, даволі адцеміць, што пераход *о*, *е* ў *у* маем такжа на поўначы беларускага прастору, прыкл. у Смаленшчыне. Дык і гэтая асаблівасьць ня можа быць прызнана ўкраінскаю ў харобрыцкай гутарцы, тым балей, што ў украінскай мове закрытае *о*, *е* пераходзе ня ў *у* (лац. u), але ў *і*.

Гэт'кім парадкам у гутарцы Харобрычаў і сумежных ізь ёю гутарках нельга знајсьці ані воднае рысы, каторая-бы сьведчыла хоць-бы аб ладным украјінскім уплыве, ня кажучы ўжэ аб украјінскім паходжаньню гэтых гутаркаў. Затое ё мноства асаблівасьцеў беларускіх.

Дык няма дзіва, што пры такім палажэньню справы прыхільнікі спачатнага ўкраінскага паходжаньня менаваных гутаркаў стараюцца падперці свае слабыя языковыя довады аргумэнтамі гісторычнымі ды проста дзівоснымі. Але ј тут јіхняя позыцыя не мацнејшая.

Дзівосным „довадам" небеларускасьці Беларусаў Горадненскага пав ё тое, што хоць „Харобрычаў і јіхніх сусудзеў называе акалічнае (хіба ўкраінскае — Рэд.) насяленьне Ліцьвінамі, самі Харобрычы называюць Ліцьвінамі г. зн. Беларусамі, ажно жыхараў Гомельскае ј Магілеў скае губэрні" (32). І гэта мае быць аргумэнт! Назоў „Ліцьвіны", як старшы нацыянальны назоў нашага народу. захаваўся толькі часткава і пры тым у часьці меншај. Што-ж дзіўнога, калі Беларусы з Горадненскага п. Чарнігаўшчыны, належачы ад XVI ст. да маскоўскага гаспадарства, наўперад называюць „Ліцьвінамі" Беларусаў із Гомельшчыны, што былі ў свајім „літоўскім" гаспадарстве да 4-ае чэцьверці XVIII ст.? Але-ж і Украјінцамі ці „хахламі" сябе не называюць. І калі-б јім даць выбраць паміж Украјінцамі, „хахламі", ці Ліцьвінамі, Беларусамі, дык бяссумлеву выбяруць сабе адно з двух апошніх азначэньнеў. Ці-ж ня добра сьведчыць аб јіх беларускасьці тое, што јіх просты, суседні ўкрајінскі народ называе Ліцьвінамі г. зн. Беларусамі !?

Довадам гісторычным ё, што ў XVI ст. „Харобрычы разам із Сноўскам" адыјшлі ад беларускага гаспадарства да Маскоўшчыны і гэтым былі адарваныя ад Украјінцаў, з каторымі быццам дагэнуль жылі супольным языковым жыцьцём. Выходзіць, што Маскалі беларушчылі Украјінцаў. А мы ј ня ведалі дагэтуль, што мелі калісь такога памачніка. У належачај да Маскоўшчыны ў XVI і палове XVII ст. паўночна-заходнај Чарнігаўшчыне трудна казаць аб маскоўскім уплыве тады і зусім немагчыма казаць аб уплыве беларускім, бо ня было тады тамака ані беларускага грамадзка-палітычнага жыцьця ані беларускага војска.

Затое калі ў трэцяј чэцьверці XVII ст. утварылася ў межах Маскоўшчыны аўтономная Украјіна-гэтманшчына, дык яна абняла ј беларускую Чарнігаўшчыну. Навет балеј: хітрыя маскоўскія вајводы зрабілі сталіцај гэтманскај беларускі Старадуб - каб гэтман ня меў апоры ў мясцовым насяленьню. Тады—у XVII і XVIII ст. мусілі там быць украјінскія ўплывы, бо было тамака тады, як каля сталіцы, хоць і штучнај, ладнае ўкрајінскае грамадзка-палітычнае жыцьцё,

а—яшчэ важнеј—стаяла ўкраінскае војска, і навет із мясцовых Беларусаў вытварылася апрычоная казацкая кляса. Украінскі ўплыў не перастаў і XIX — XX ст., бо Беларусы з Чарнігаўшчыны хадзілі на Украіну ў шахты, на цукровыя хвабрыкі, на заработкі ў Кіеў і пад. Трэба толькі дзівіцца, што менаваны ўплыў мала адбіўся на мове беларускае Чарнігаўшчыны.

*Др. П. Вајцюлевіч.*

---

# Імбары.

У Вільні ля старое ратушы і Нямецкае вул. ё кароткая, але шырокая вуліца, званая *Імбары*. Як сьведча гісторыя, за беларускага гаспадарства, званага Вялікім Княствам Літоўскім, ля гэтае вуліцы былі сьвірны (магазыны, склады) купцоў, прыяжджаючых з маскоўскага гаспадарства. Як ведама, *сьвіран* памаскоўску завецца *амбар*; адгэтуль назоў вуліцы *Імбары*. Але чаму маем *і* замест *а* на пачатку гэтага назову? У мове маскоўскај нямаш пераходу *а* ў *і* або *ы*; нямашака гэт‘кага пераходу і ў недысыміляцыјным (паўдзённа-заходнім) нарэччу беларускага языка, няма, ведама, яго ј у віленскај гаворцы беларускај, належачае да гэтага нарэчча. Значыцца, ані самастојна ў мове маскоўскај, ані пад уплывам беларускае гаворкі м. Вільні *і* на месцу *а* ў слове *Імбары* не магло ўзьнікнуць. Не магло ўзьнікнуць *і* такжа пад уплывам даўнејшај беларускај мовы літаратурнај, бо ў ёј такжа ня было пераходу *а* ў *ы*, *і*. Пераход ненацісьненага *а* перад складам з *а* ў *ы*, *і* (на пачатку слова) маем у дысыміляцыјным (паўночна-ўсходнім) нарэччу беларускага языка: там кажуць—*кызаў* зам. *казаў*, *ныжаў* зам. *нажаў* і јінш. Але ці мог быць уплыў у дадзеным прыпадку паўночна-ўсходняга беларускага нарэчча? На грунце віленскім ён бяссумлеву ня мог быць. Але ў самым маскоўскім гаспадарстве гэты ўплыў вельмі добра мог стацца. Пачынаючы ад вялікага князя Аляксандра, да маскоўскага гаспадарства належыла часьць беларускіх земляў з вымоваю дысыміляцыјна-акаючаю. Дыкжэ пад іх уплывам *а* перајшло ў *і* ў слове *імбары* ў мове прыяжджаючых у Вільню купцоў з маскоўскага гаспадарства. Адгэтуль вывад, што ј самыя купцы гэныя, прыяжджаючыя ў Вільню, пераважна былі Беларусамі. Наагул ня ўсі тыя „Масковіцiны“, што напару лучалі даўнеј у беларускае гаспадарства, былі запраўды Маскалямі.

*Бр. С.*

---

# Аб Беларусах і беларускај мове ў энцыклёпэдычных слоўніках.

Па сусьветнај вајне зацемлюецца ўсюды ажыўленьне ў пераглядах і перавыданьню старых энцыклёпэдычных слоўнікаў. Сярод Беларусаў таксама ўжо насьпела патрэба мець гэт'кі слоўнік, нажаль гэтая думка ня можа стацца рэальнасьцю, бо вымагае вялізарных коштаў. Дзеля гэтага нас Беларусаў цікавіць заўсёды, як прадстаўляецца Беларусь ува ўсёј сваёј размавітасьці ў васьвятленьню іншых народаў. Ведама, слоўнікі гэныя, дзеля свае паўніні, ня могуць абмінуць беларускае рубрыкі. Ізноў-жа, дзякуючы сваёј пачаткавај літары *Б*, беларуская рубрыка ўжо у большасьці запоўнена, хоць перавыданьне энцыклёпэдыяў далёка яшчэ ня скончылася. Аб значэньню энцыклёпэдыјі навет ня прыходзіцца ј казаць, бо да яе зварочуецца ня толькі чытар, каб здаволіць цікавасьць, але ј наўчоны, што хоча знајсьці жаролы для свајіх навуковых дасьледаваньнеў.

Перад намі, нажаль, пакуль што толькі тры гэт'кія навејшыя перавыданыя энцыклёпэдыјі: расејская „Большая Советская Энциклопедия", том V, Москва 1927; польская „Wielka ilustrowana encyklopedja powszechna", tom II, Kraków; і чэская „Ottův slownik naučnv", Praha № 18 ј 20. 1930 год.

Најбалеј поўны ј усебаковы агляд дае „Больш. Сов. Энциклопедия", дзе зьмешчаны вялікія артыкулы аб усіх пытаньнех сябрамі Беларускае Акадэміјі Навук, профэсарамі: Пічэтаю, Азбукінам, Смолічам, Ігнатоўскім, Даўнар-Запольскім, Шчакаціхінам, Растаргуевам ды јінш. Матар'ял пададзены вычэрпуючы ня толькі аб пытаньнех радавае Беларусі, але ј усяго этнографічнага беларускага прастору. Вялікая гіпсомэтрычная карта ј дыограмы добра паясьняюць тэкст (бал. 352—414). Трэба думаць з пэўнасьцю, што гэтая новая энцыклёпэдыя згуляе вялікую ролю ў справе інфармацыјі аб Беларусі ј Беларусах ня толькі паміж народаў ЗРСР, але ј вонках яго.

Працілежнасьцяј расејскае энцыклёпэдыјі ў справе беларускај ё польская, менаваная вышэј, энцыклёпэдыя, выданьня Гутэнбэрга ў Кракаве. „Wielka Encyklopedja Powszechna" абмежуецца мінімальна кароткај зацемкај аб Беларусі і то выходзячы з патрэбы прызнаньня факту існаваньня БРСР (бал. 179). Разам з гэтым у гэнај зацемцы ў васаду радавае Беларусі ўціскаецца разуменьне наагул аб этнографічнај Беларусі і абсалютна не ўспамінаецца аб беларускај лінгвістычнај асаблівасьці, географічнај, аб

беларускај гісторыјі ј літаратуры, з фактам быцьця каторых цяпер лічацца ўсе народы.

Трэба толькі дзівіцца з такога ўмыснага замоўчаваньня гэтај энцыклёпэдыяј шырыні ј глыбіні беларускага пытаньня перад польскім грамадзянствам.

Даваенная, старая расејская энцыклёпэдыя Брокгауза ј Эфрона дае без прыраўнаньня шмат і шмат разоў балеј адказаў у беларускім пытаньню, чымся г. зв. польская паваенная энцыклёпэдыя (1925 г.). Характэрна, што ј у јіншых польскіх падобных слоўніках, як напр. географічным слоўніку, можна зацеміць аналёгічнае зьявішча.

Напасьледак, можна прывесьці чэскую энцыклёпэдыю „Ottův slovník naučny“ выпуск 18 ј 20 (стар. 536 -- 537, 613—15). Ладныя артыкулы з вычэрпуючым аб усіх беларускіх пытаньнех зьместам (географіјі, лічбы, палітычнага сучаснага падзелу, рэлігіјнага, палітычна-гістарычнага жыцьця і беларускае літаратуры) напісана Д-рам Мік. Ільляшэвічам. На жаль, няведама чаму рэдакцыя зьмясьціла карту (маштаб 1:7.500.000) супярэчную з тэкстам, а пајменна: зь няправільнымі межамі галоўна на паўдні і паўднёвым усходзе Беларусі. Відаць рэдакцыя карысталася старою картаю проф. Е. Карскага, па якој большая частка Палесься няправільна адыходзіць да Украјіны. Але тагды няведама чым выясьніць, што Старадуб, Клінцы, Навазыбкаў і јінш. таксама далучае да Украјіны? Ня хочацца верыць, каб рэдакцыя слоўніка кіравалася ў гэтым месцы картај Украјінца С. Рудніцкага, што ў свајіх апэтытах часта сягае аж пад Менск. Робіцца дзіўны дыссананс: Д-р М. Ільляшэвіч піша: „Беларусь абыјмае прастор паміж $51^0$ 15' — $56^0$ 45' паўночнае шырыні і $22^0$ 30' — $34^0$ усходняе даўжыні ад Грынвіча і зајмае прастор у 326.000 кв. км.“ а на карце гэты прастор на паўдні ўрэзаны на карысьць Украјіны. Абмылка рэдакцыјі проста недапушчальная і трэба было-б, каб была папраўлена. Трэба ўсё-ж такі прызнаць, што ј тут зроблена добрая справа: дадзена магчымасьць для шырэјшых колаў чэскаславацкага грамадзянства орыентавацца ў беларускім пытаньню.

*К. Л.*

## Вазьмеце прыклад!

Расеjская эміграцыя забіла трывогу. Аказуецца, што ў расеjскіх эмігрантаў, раструшаных па сьвеце паміж чужымі народамі, псуецца родная мова. Выдадзены адозвы, заклікаючыя расеjскіх эмігрантаў да захаваньня чысьціні расеjскае мовы. Патварыліся таварыствы j комітэты дзеля дагляду чысьціні расеjскае мовы паміж сталымі j дзяцьмі.

А ў нас? Знаючы расеjскую эміграцыю і самых сябе, мы можам сьмела сказаць, што беларуская мова ў сваёj бацькаўшчыне ё ў большаj небясьпечнасьці, чымся расеjская на чужыні. А тымчасам ці ў нас што робіцца дзеля чысьціні роднае мовы? Нічагусенькі ня робіцца! Наадварот, здаецца робіцца ўсё, каб беларускую мову скалечыць, засьмяціць яе чужымі ўплывамі. Ці шмат у нас ё інтэлігентаў, каторыя стараюцца гаманіць чыста пабеларуску? Ня кажам ужо аб мове літаратурнаj, але хоць-бы чыстаj сваёj мясцоваj моваj народнаj. Ці ё ў нас звычаям зварочаваць адны адным увагу на барбарызмы?

Пара ахамянуцца! У нашым палажэньню ня шмат мы можам рабіць дзеля развою нашае літаратурнае мовы j культуры. Дык прынамся робема тое, што магчыма. А наўперад ня губема скарбаў роднае мовы, дастаных ад нашых прэдкаў. Вазьмеце прыклад із Расеjцаў!

---

## Адкрыты ліст у рэдакцыю.

Паважаны грам. рэдактару!

Ветліва прашу Вас не адмовіць надрукаваць у Вашым часапісе наступное

ЗАПЯРЭЧАНЬНЕ:

У чэскаj энцыклёпэдыі пад назовам „Ottuv slovnik naučny“ выпуск 18 j 20 (Praha 1930) па просьбе рэдакцыі былі зьмешчаны мае артыкулы “Беларуская літаратура“ (Beloruskà literatura) і „Беларусь“ (Bilà Rus) Аднак у тэксьце пададзена рэдакцыяj супярэчная зьместу карта Беларусі (маштаб 1 : 7.500.000), на якоj паўднёвая j паўднёва-ўсходняя частка этнографічнае Беларусі (паjменна: беларускае Палесьсе зь местамі: Пінскам, Кобрынам, Берасьцям ды таксама Старадуб. Клінцы, Навазыбкаў ды іінш.) пакінуты за межамі Беларусі.

Не ўваходзячы ў разгляд матываў, якімі кіравалася рэдакцыя Энцыклёпэдыі, друкуючы сваю карту, гэтым хачу запярэчыць перад грамадзянствам, якое-б карысталася гэтаj энцыклёпэдыяj, што, апрача тэксту, напісанага мною, адказнасьці за зьмешчаную карту не бяру.

З пашанаю *Д-р Мікола Ільляшэвіч.*

---

Выдае Беларускі Гаспадарскі Зьвяз. / Рэдактар Д-р Я. Станкевіч.

ДРУКАРНЯ Я. ЛЕВІНА, ВІЛЬНЯ, НЯМЕЦКАЯ 22.


Дзяржаўная бібліятэка БССР

Б 05/1630

